«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 2 (186), люты 2022 года

# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 2 (186) (люты)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org
novychas.online



Змест





**ПОГЛЯД**

# Ці цэнтральнаеўрапейская Беларусь?

Андрый ЛЮБКА

Здавалася б, пытанне ў назве бессэнсоўнае, бо ўсім вядома, што Беларусь — усходнееўрапейская краіна.

Усё так, калі б не адзін парадокс: у Заходняй Еўропе ўсе краіны Цэнтральнай Еўропы таксама лічацца ўсходнееўрапейскімі. Іншымі словамі, Цэнтральная Еўропа ўключае толькі тыя краіны, якія бачаць сябе ў гэтай частцы кантынента. Таму што Цэнтральная Еўропа — гэта насамрэч не геаграфія, а інтэлектуальная канцэпцыя вызвалення ад Усходу.

Гэта добра ілюструе блытаніну, якая ўзнікае пры вывучэнні Цэнтральнай Еўропы. Напрыклад, у Інстытуце ўсходнееўрапейскіх даследаванняў Варшаўскага ўніверсітэта (SEW UW), дзе я меў гонар навучацца, у рэгіён і спецыяльнасць «Цэнтральная Еўропа» ўваходзілі Польшча, Чэхія, Венгрыя, Славакія + Румынія, якая трапіла ў Цэнтральную Еўропу дзякуючы Трансільваніі, што гістарычна лічылася ў Цэнтральнай Еўропе.

У той жа час тая ж Румынія вывучалася ў курсе «Балканы», але Украіны, якая мае цэнтральнаеўрапейскія тэрыторыі (да Збруча) і квазібалканскія рэгіёны (Бесарабія, часткова Букавіна і Закарпацце) не было ні ў курсе «Цэнтральная Еўропа», ні ў курсе «Балканы». Да таго ж Славенія і Харватыя, якія лічаць сябе цэнтральнаеўрапейскімі, чамусьці не трапілі ў дыскурс Цэнтральнай Еўропы, іх заўсёды разглядалі ў кантэксце Балкан, хоць гэтыя краіны ў Аўстра-Венгрыі прабылі значна даўжэй, чым у Югаславіі.

Найбольш не пашанцавала ў гэтым Аўстрыі, якая належыць да Заходняй Еўропы, хаця для большасці экспертаў прыналежнасць да аўстра-венгерскай спадчыны з'яўляецца прыкметай сярэднееўрапейскасці. Паўтаруся, справа не ў геаграфіі: Прага знаходзіцца далей на захад, чым Вена, але Чэхія — краіна Цэнтральнай (ці Усходняй) Еўропы, а Аўстрыя — Заходняй.

Таму варта прызнаць, што канцэпцыя Цэнтральнай Еўропы — гэта перадусім інтэлектуальны праект, створаны ў другой палове XX стагоддзя інтэлектуаламі (Кундэра, Мілаш, Конрад, Гавел ды іншыя.).

У вузкім сэнсе да Цэнтральнай Еўропы адносяцца толькі краіны цяперашняй Вышаградскай чацвёркі, а ў шырокім сэнсе — усе краіны паміж Нямеччынай і Расіяй (Міжземнамор'е па лініі ад адрыятычнай Славеніі да балтыйскай Эстоніі і чарнаморскай Украіны). Па сутнасці, менавіта так павінна выглядаць геаграфічная Цэнтральная Еўропа, калі ўсход кантынента заканчваецца на Урале.



Фота Хары Крышнана

Андрый Любка

Прабачце за доўгі ўступ: мне трэба было патлумачыць, што краіна сама сябе ставіць на (ўяўную) мапу Цэнтральнай Еўропы. Бо для партугальца ці англічаніна Польшча і Венгрыя — гэта Усходняя Еўропа, а не Цэнтральная Еўропа (як Украіна). Іншымі словамі, венгерцы і палякі становяцца сярэднееўрапейскімі толькі таму, што лічаць сябе такімі.

Жывільная энергія канцэпцыі Цэнтральнай Еўропы ў тым, што яна дае глебу для адрыву-аддзялення ад Усходу (чытай – Расіі). Умоўна кажучы, калі б не творчасць украінскіх інтэлектуалаў і пісьменнікаў 1990-х і пачатку 2000-х гадоў, не было б Памаранчавай рэвалюцыі і Еўрамайдана. Бо на працягу ўсіх трох дзесяцігоддзяў незалежнасці ўкраінская інтэлектуальная эліта кавала міф пра глыбокую прыналежнасць Украіны да Еўропы, паціху «крадучы» Украіну з Усходу на Захад — і гэты шлях прадугледжвае патрапляннe ў Цэнтр.

Дзякуючы канцэпцыі прыналежнасці да Цэнтральнай Еўропы большасць украінцаў былі гатовыя да балючага разрыву з Расіяй і «русского мира». І менавіта з-за адсутнасці гэтай канцэпцыі ў Беларусі яе рэвалюцыя не ўдалася. Бо палітычныя лідэры беларускай апазыцыі па-ранейшаму сцвярджаюць, што іх пратэст не супраць Расіі, а толькі супраць Лукашэнкі; што іх рэвалюцыя не азначае шлях у Еўропу. Гэта, на маю думку, прынцыповая памылка, якая паралізуе ўвесь пратэст. Бо, каб заваяваць сапраўдную Беларусь, беларусам (у першую чаргу інтэлектуальнай эліце) трэба знайсці сваю краіну на карце Цэнтральнай Еўропы, вынайсці нанава само паняцце сваёй нацыі. І сам заклік да еўрапейскага кантэксту, калі беларускія землі ўваходзілі ў склад Польшчы, сувязь са шматвяковай традыцыяй дэмакратыі Рэчы Паспалітай, выкарыстанне забытага патэнцыялу магдэбургскага самакіравання для гарадоў можа стварыць глебу для аддзялення ад Расіі і сапраўднай незалежнасці.

У гэтым кантэксце адказ на пытанне «Ці з'яўляецца Беларусь цэнтральнаеўрапейскай краінай?» адназначнае: цяпер не. Але яна асуджана стаць ёй, калі захоча ўратавацца ад поўнага растварэння ў балоце расійскага Усходу.

***Спецыяльна для InfoPost.Media.***
***Пераклад з украінскай***



Фота inter-legal.ru

# Васіль БЫКАЎ: «Уніяцтва магло б стаць рэлігіяй беларусаў»

**«Літаратурная Беларусь» працягвае друкаваць фрагменты гутарак Юрася ЗАЛОСКІ з Народным пісьменнікам Беларусі Васілём БЫКАВЫМ, — на гэты раз пра стыхійнасць і рэгламентаванасць літаратуры, лёсавызначальныя і «праклятыя» часы нацыі і яе «духоўнае здароўе».**



Фота з архіва аўтара

***— Ці схільны Вы, Васіль Уладзіміравіч, лічыць, што сёння рэалізм як мастацкі метад у сусветнай літаратуры ўвогуле страчвае сваю мастацкую каштоўнасць — з прычыны анігіляцыі самога жыцця, знікнення непасрэднасці чалавечых перажыванняў і паводзін, распаду традыцыйнай біблейскай маралі, замены ўчынкаў на фальшывыя інфармацыйныя ўмоўнасці?***

— Так мяркую, што рэалізм аджывае сваё найперш у сытых, забяспечаных грамадствах, дзе ён як напрамак мастацтва ўжо адпрацаваў уласныя магчымасці. У грамадствах жа, якіх раздзіраюць сацыяльныя праблемы, якія пакутуюць без элементарных грамадзянскіх свабод, нацыянальна не рэалізаваных, у такіх грамадствах яшчэ доўга будзе існаваць патрэба ў звычайным рэалізме, з яго чэрствай праўдай жыцця, адлюстраванай у формах самога жыцця. Тое меркаванне, вядома, не выключае памкнення пэўнай (элітнай) часткі грамадства да мастацтва іншага кшталту з ухілам у бок формы, эпатажных прыёмаў творчасці, асабліва папулярных на Захадзе. Але не забудзем: перайманне ёсць паўтор, другаснасць, няздольныя даць кшталт адкрыцця, і ў дэмакратычным грамадстве хіба што будзе цярпімае, не болей. У недэмакратычным жа не будзе і элементарнай цярпімасці.

***— Дарэчы, у Вас мала твораў пра сучаснасць. Вы што — інтуітыўна адчувалі немастацкасць часу і свядома адмовіліся выказвацца пра яго мастацкім словам?***

— Для мяне час так званага застою, як бы ён ні вызначаўся эканамічна, у экзістэнцыяльных стасунках сапраўды здаваўся немастацкім. Рэалістычнае мастацтва — выяўленчае ці літаратура — усё ж вымагае пэўнага элементу стыхійнасці, неарганізаванасці, якіх не было ў нашым дашчэнту зарганізаваным, рэгламентаваным бальшавіцкім мінулым. На вайне тае стыхійнасці было куды болей, асабліва ў партызанскай вайне, на акупаванай тэрыторыі, і туды інстынктыўна памкнуліся мае літаратурна-эстэтычныя сімпатыі.

***— …І таму ў дачыненні да сучаснасці Вы абралі не эстэтычны, а — палітычны шлях умяшання ў жыццё. Ці азначае гэта, што літаратуру вызначае ўсё-такі кандыцыя самога жыцця, і жыццё папросту можа не даць спрыяльных імпульсаў для творчасці («крызісны час»)?***

— Наколькі наш час лёсавызначальны для нацыі, наколькі драматычны і «пракляты» для грамадства, настолькі ён неспрыяльны для мастацтва, для функцыянавання культуры. Крызісны час — тым усё сказана. Вядома, пасля ён дасць пэўны плён, можа быць, і плён значны, але — пасля. Як усё ўляжацца, настане нейкая пэўнасць і выразнасць, усталюецца пэўны позірк на мінулае, якім неўзабаве зробіцца наша сучаснае. Выпрацуецца пэўная эстэтыка, адпаведная густам новага часу. Пэўна, на змену ранейшай эстэтыцы, дзе ўсё ж пераважаў рэалізм (крытычны, сацыялістычны) прыйдзе які нечуваны гіпермадэрнізм. Хай! Мае ж літаратурныя густы, што склаліся пад уплывам класічнага рэалізму XIX стагоддзя, умацаваліся ў рэчышчы рэалізму XX стагоддзя, ад таго не пацерпяць, і не мне ўжо мяняць іх на штосьці нязвыклае. Позна ўжо, ды і не цікава.

***— Відавочна, што ў процістаўленні жыццё — мастацтва Вы аддаеце прыярытэт жыццю. Калі так, то ўсё прыгожае, усе класічныя шэдэўры літаратуры, жывапісу і г.д. як бы народжаны самім жыццём. Дык вось: ці не можа ў прынцыпе стацца так, што мастацтва збанкрутуе канчаткова, адпрэчанае самім жыццём?***

— Вядома, мастацтва нараджаецца з пэўных праяваў жыцця (найбольш рэалістычнае мастацтва), але таксама і з унутраных, душэўных імпульсаў, сігналаў аўтарскай падсвядомасці. Суадносіны таго і другога ў кожным творы кожнага аўтара дужа няпэўныя. Бываюць творы, нібы само жыццё, «спыненае імгненне»; бываюць створаныя выключна з ірацыянальных элементаў, дзе ад рэальнасці, бадай, нічога няма. Мабыць, каштоўнасць тых ды іншых вызначаецца ўсё ж не так спосабам адлюстравання, як характарам творцы, сутнасцю яго часам выразнага, а часам загадкавага таленту. У культурным грамадстве сапраўднае мастацтва (не кітч) па сваёй сіле ўздзеяння можа супернічаць з натуральнымі праявамі жыцця. Уплывы мастацкіх вобразаў на душу чалавека, аднак, дужа невыразныя, апасродкаваныя, залежныя ад псіхічнай канстытуцыі асобы, узроўню яе культурнасці, а таксама ад меры мастацкай умоўнасці твору. Тая ўмоўнасць бывае нармальнай, агульнапрынятай, бывае празмернай і цяжкой для ўпрыняцця, бывае недастатковай і з тае прычыны таксама не кранае спажыўца прыгожага. Іншае ж аказвае зусім адваротнае ўражанне, чым на тое разлічваў аўтар. Яшчэ Арыстоцель заўважыў пэўны парадокс успрыняцця мастацтва, калі пісаў, што «мы з задавальненнем глядзім на выяву таго, на што ў рэчаіснасці глядзець непрыемна». Чаму так — не зусім зразумела. Але, мабыць, у тым нешта адчувалі марксісты, якія, не маючы магчымасці выкараніць «негатыў» з рэальнага жыцця, заўзята выкаранялі яго з мастацтва. Сучасная рэчаіснасць, вядома, тоіць у сабе безліч самага рознага, у тым ліку і драматычна-трагедыйнага, заўжды каштоўнага для мастацтва. Але праблема, мабыць, у тым, што да пары гэта — сырэц, паўфабрыкат, сусла, з якога яшчэ трэба вырабіць прадукт. А тое патрабуе часу. Выспее, перабродзіць у дзяжы мастакоўскай свядомасці (асабліва ў падсвядомасці), і вінар-аўтар зробіць з яго напой багоў. Але не цяпер, не ў крызісны час. У крызісны час майстра заняты не так пошукам метафар, як пошукам хлеба…

***— У апошнія гады Вы адкрыта выступаеце як апалагет хрысціянскіх каштоўнасцяў і хрысціянскай веры. Ці былі Вашыя адносіны да рэлігіі (Бога) ўвесь час нязменнымі, роўнымі? (У гэтым сэнсе цікава пачуць Вашу ацэнку вайны як не толькі «вайны», але і як памежнай падзеі быцця, удзельнікі якой як бы праходзяць своеасаблівую містэрыю «прычашчэння смерцю», г.зн. здабываюць пэўны духоўны гарт…)***

— Безумоўна, у наш складаны, бязбожны час традыцыйныя хрысціянскія каштоўнасці застаюцца галоўным духоўным апірышчам нацыі. Тое было пэўна ў гады татальнага вынішчэння рэлігіі, нездарма бальшавікі з першых дзён свайго панавання пастралялі царкоўных іерархаў, пабурылі цэрквы — яны не трывалі духоўнай канкурэнцыі. Дэмакратычна арыентаваныя і проста сумленныя грамадзяне заўжды спантанна адчувалі згубнасць атэістычнай бездухоўнасці і неяк спрабавалі процістаяць ёй. На пачатку перабудовы, калі з'явілася такая магчымасць, я ў «Комсомольской правде» палемізаваў з заўзятымі маскоўскімі прафесарамі-атэістамі. Але затым мой заступніцкі пафас знізіўся, калі новыя ўлады ў адносінах да царквы цынічна змянілі бізун на пернік. Вядома, ад камуністаў усяго можна было чакаць, але здзіўляла тая «хэнць», разлік або наіўная легкаверласць, з якой царква (найбольш праваслаўная) кінулася ў камуністычныя абдымкі, спрэс ператвараючыся ў банальныя «рычагі» ўлады. Мабыць, сапраўды каштоўнасць рэлігіі не ў царкве, не ў яе зменлівай духоўнай палітыцы, а найперш у фундаментальнай сутнасці яе маралі, якую два тысячагоддзі нясе з сабой хрысціянства, Стары і Новы Запавет, першакрыніцы хрысціянства.

У гэтым сэнсе на памяці прыклад Льва Талстога, які, як вядома, займеўшы канфлікт з царквой, узяўся за вывучэнне грэцкай мовы, каб без перакладу спасцігнуць першасны сэнс запаветаў Хрыста і святых апосталаў. Але гэта Талстой. А як народу, сем дзясяткаў гадоў адлучанаму ад веры, зноў далучыцца да яе, перадолець духоўную разарванасць, спасцігнуць боскую сутнасць без карысліваых адвакатаў рэлігіі? Беларусам намагчыся на тое і яшчэ цяжэй — гісторыя не дала ім канкрэтна-ўласнай рэлігіі, кінула на раздзёр між дзвюма не надта прыязнымі канфесіямі. Уніяцтва, якое магло б стаць рэлігіяй беларусаў, амаль задушана, заціснута з двух бакоў магутнымі канфесіямі і ніяк не можа адрадзіцца. Усё тое балюча адбіваецца на духоўным здароўі народа.

Здаецца мне, вайна да тае праблемы не мае прамых адносінаў, бо на вайне ўсё вырашала грубая сіла, містыцы там не было месца. Гэта вернікам у акопах Першай сусветнай вайны бачыліся розныя містычныя ўяўленні, як правіла з добрым, шчаслівым знакам. Атэістам жа на Другой сусветнай не бачылася нічога, апроч дужа рэальнай (без містыкі), заземленай (літаральна і фігуральна) пагібелі. Што б гэта значыла? Але, мабыць, зразумела, што.

***— Наколькі вядома з Вашых інтэрв'ю, Вы падзяляеце той пункт гледжання на чалавечую гісторыю, паводле каторага «чалавецтва паступова разумнее», г.зн., што развіццё чалавецтва ў цэлым адбываецца нібыта ў кірунку прагрэсу. Але апошняе стагоддзе пакідае па сабе і найжахлівыя сведчанні маштабнага самагеноцыду «разумнага» чалавецтва: дзве сусветныя вайны з мільёнамі ахвяр, пастаянны лязгат зброі, крывавыя канфлікты, у тым ліку і апошнія… Можа, слушна было б разглядаць вайну і вяянічасць як усё-такі фатальнае спараджэнне гульні бессвядомых сіл у калектыўным арганізме чалавецтва, як пэўнае выйсце для той грубай энергіі інстынктаў, якая пры надта кшталтаваным розуме не знаходзіць, аднак, належнай сублімацыі ў культуры, таймуецца (чым, бадай, безвынікова апякуецца і Царква), але затым вырываецца на паверхню жыцця і — нішчыць, руйнуе той цывілізаваны лад, які, здавалася, цалкам паверыў у сваю трываласць і бясконцасць. Можа, след прызнаць за вайной метафізічную, ірацыянальную прыроду і, адпаведна, статус увесьчаснага спадарожніка чалавецтва праз усю яго гісторыю?.. Г.зн. пагадзіцца з тым, што чалавецтва ўсё-такі не разумнее?***

— Мабыць, тое разуменне адбіваецца не раўналегла: калі адны народы даўно «паразумнелі» і па-людску ладзяць сваё людское жыццё, дык іншыя не толькі не спяшаюцца рабіць тое, а час ад часу дурнеюць.

Помніцца амаль роспачны крык у тэлевізары аднаго з самых сумленных расейскіх інтэлектуалаў: «Россия, ты одурела!» (гэта калі Расея прагаласавала за Жырыноўскага). У нас жа, у Беларусі, не ведаю, на жаль ці на шчасце, такога вокрыку не пачуеш — не тое тэлебачанне. Нават пры магчымасці свабоднага (адносна, вядома) выбару выбіраюць не лепшае, і не таму што не хочуць сабе дабра, а таму што дагэтуль не навучыліся адрозніваць кепскае ад горшага. Бо не вучацца ні ў Бога, ні ў д'ябла, ні ў разумных суседзяў. Мабыць, лічаць, што даволі марксісцкай навукі, засвоенай ва ўніверсітэтах марксізму-ленінізму, партшколах… Нацыя ж, спакушаная фальшывымі ідэямі, падманутая псеўданавукай, будзе хварэць, аж пакуль не паразумнее і не вызваліцца ад тае ачмурэласці. Пакуль не зразумее элементарную самакаштоўнасць здаровага сэнсу.

***— Напэўна, усе вышэй закранутыя пытанні можна звесці да аднаго, універсальнага: адкуль на зямлі ліха і дзе прычыны зямных бед і радасцяў (мастацтва, літаратуры, грамадскага ўладкавання), — у трансцэндэнтным, г.зн. пад уладаю патойбочных сіл, ці — у самой амбівалентнай існасці гэтага свету і чалавека? Прынамсі, наколькі схільны Вы пераносіць адказнасць за тое, што робіцца сёння на Зямлі (і ў Беларусі), у сферу патойбочнага?***

— У чым тыя прычыны — пэўна не ведае ніхто. Як не ведалі таго тысячу і дзве тысячы гадоў таму. Хоць яйкагаловым мінулага заўсёды здавалася, што яны ведаюць усё. Па крайняй меры, заўжды і ўсё на зямлі і ў небе знаходзіла нейкае тлумачэнне. Але мінаў час, і рабілася відавочнай уся наіўнасць, «антынавуковасць» таго тлумачэння. І тады з'явілася агнастычнае разуменне непазнавальнасці свету. Кант і Спэнсэр былі не дурнейшыя за папярэднікаў, калі ўсумніліся ў іхніх поглядах. А пасля ўсумніліся і ў вызначэннях саміх агностыкаў, што даказалі марнасць ведаў пра свет. І пра чалавека таксама.

На маю думку, чалавецтва ніколі не спазнае сябе па дзвюх прычынах: па-першае, чалавек — зменлівае стварэнне, і спазнаць яго ў стане зменлівасці наўрад ці каму ўдасца. Па-другое, калі спазнаць да канца, дык тым спыніць сам працэс пазнання, а гэта ўжо ці не канец гісторыі? Хаця, як вызначыў Ф. Фукуяма, канец гісторыі азначае толькі тое, што людзі пачнуць яе зноў, так бы мовіць, чарговым заходам. І так бясконца. У тым, можа, і ёсць не разгаданая таямніца існавання, вялікі ягоны сэнс.

*Чэрвень 1995 г.*

# Богам прынядзелены

Сяргей ПАНІЗЬНІК

## Вячка Целеш. Пэндзаль не раўня лучыне

*З Майстэрні мілай пана Вячкі*
*Паўзлі мы ледзь не на карачках.*
*І дух наш ледзь трымаўся ў целе,*
*Калі дамоў пусціў нас Целеш.*

**Уладзімір Караткевіч,**
**22 чэрвеня 1981 г.**

Калі я павіншаваў Вячку Целеша з яго новым незвычайна багатым выданнем — «Беларускія мастакі Латвіі» (1920—1990), рыжанін адразу ж адгукнуўся: «Дарагі сябра Сярожык, дзякуй за добрыя словы, за дапамогу ў працы над гэтай кнігай і ўвогуле за плячо сябра з першых дзён нашага знаёмства». А нашаму творчаму сяброўству больш як паўвека. Няма ў маім жыцці другой Асобы, каб мы так ладзілі між сабой, спрыялі-дапамагалі. І ніводнаму творцу я не адгукаўся так шчыра. А прысвячэнні ж пішуцца толькі пры свячэнні вобліка чалавека, каму адрасуецца твор.

У Рыгу я трапляў наведаць сваю сястру, а ў Юрмалу — праведаць бацькоў. Вячку дазвалялі займець у рыжскім доме гарышча, а пазней камору ў службовым палацыку. Не ў закуточках, а ў зладжаных мастаком музейных падашках шчырыя госці адзначалі і 40-годдзе, і 50-годдзе ўзнёслага творцы — мастака, педагога, гісторыка, краязнаўца, фалькларыста, калекцыянера, даследчыка беларускіх сувязяў, выдаўца.

Вячаслаў Міхайлавіч, народжаны 25 верасня 1938 года, не зважаў на жыцейныя аблокі і туманы. Працаваў над партрэтамі, пейзажамі, нацюрмортамі, экслібрысамі...

А грамадская праца? Гэта ж ён стварыў Латвійскае таварыства беларускай культуры «Сьвітанак» (1988), Аб'яднанне мастакоў-беларусаў «Маю гонар» (1991), стаў першым дырэктарам беларускай школы... Сярод яго узнагародаў — прэмія імя Ф. Багушэвіча, Ордэн Трох Зорак Латвійскай Рэспублікі...

З яго манаграфіі пра прафесійных беларускіх жывапісцаў чытачы ўзбагачаюцца жыццяпісамі Міхася Калініна, Пётры Міраноўіча, Аляксандры Бельцавай, Аркадзя Салаўёва, Дзімітрыя Гадыцкага-Цвіркі. «Маё выданне, —адзначае аўтар, — на нашай і латышскай мовах усіх зможа праінфармаваць пра нашу беларуска-латышскую дружбу з даўніх часоў. І я шчаслівы».

Спадзяюся, што і пра Вячку Целеша выйдзе кніга — агляд яго незвычайна актыўнага падзвіжніцтва. І вось да будучага жыццяпісу рыжскага будзіцеля некалькі маіх вершаваных спавяшчэнняў. Прызнаюся, пайсці на новыя паэтычныя пералазы падахвоціў мяне экспромт Уладзіміра Караткевіча: захацелася з ім быць амаль што ў сугуччы.

## З паўналеццем!

**Вячку Целешу — 40!**

*Сорак — твой вясёлы ўзгорак.*
*Узвышаны, акрыяй,*
*зыркія сполахі зорак*
*натхненнем сваім ускрыляй!*

*Да самай апошняй млосці*
*згусныя дні сплялі:*
*вырастуць атуросці —*
*промнямі атулі.*

*Сорак! Чуйны і шорах:*
*напорысты юбілей.*
*Сорак збірае порах:*
*«Промахі не жалей!».*

*Мы праз нябёсы клянчым:*
*— Вячка! Вякуй свой кліч.*
*Творчай Табе ўдачы, —*
*няўдачы хай ловіць сыч.*

*Сорак — ў сто сорак стволак*
*свой разгарні сувой.*
*Сорак — шчаслівы золак.*
*Наперадзе Поўдзень Твой.*

**P.S.**
*Наступае Дзень на пяты...*
*Сорак ветразяў напятых*
*па-над Вячкам. Мае гонар!*
*Зноў зычэнняў паўвагона*
*з Беларусі адпраўляю,*
*сябра Славіка вітаю:*
*— Рыгі кавалер заўзяты!*
*З будняў вымалюеш святы, —*
*будзем у цябе часцей*
*поўніць «Кнігу для гасцей».*

**25.09.1978**

## Дбайнаму Вячку

**(не глячок, а вершаў круглячок)**

*Хто не быў у майстра Вячкі!*
*І ліцьвінкі, і палачкі*
*заключалі творчы пакт:*
*— Вось вам — НЮ!*
*— А вось вам — АКТ...*

*Жаўруком лятаў Арлоў.*
*Рэзаў скібы Дзевіскіба*
*(марыністу быў улоў).*
*Свой хацеў пакінуць ген*
*Лецка! Той, які — Яўген.*

*Не жадаў сысці ў піў-бар*
*мёрскі плытагон Папар.*
*...Дбайна Вячка, як гарсон,*
*зберагаў прышэльцаў сон.*

**P.S.**
*З Мінска ў Рыгу меў напасць...*
*Знаў: усё сябрам аддасць.*

**14.09.1986**

## Богам прынядзелены

**(Вячку Целешу — 50!)**

*У жыцці ёсць многа свят.*
*Сённека — найлепшае.*
*Сёння Вячку — пяцьдзясят:*
*мы гаворым вершамі.*

*Хочам песняй услужыць,*
*ласкаю, абдымкамі...*
*Паўдарожкі вунь ляжыць,*
*сперазана дымкаю.*

*Паўдарогі, паўжыцця,*
*паўработы пройдзена.*
*Тэцца гарадзенскі Сцяг*
*па-над Рыгай з подзівам.*

*Вячка! На краі зямлі*
*росы Росі высвеці,*
*Беларусі караблі*
*прама ў мора вывезді.*

*Лікамі сваіх сяброў*
*сёння зноў расквечаны.*
*— А будзь, Вячка наш, здароў*
*з раніцы да вечара!*

*І на бацькавы гады*
*ты не будзь абдзелены.*
*Той, хто любіць — хоць куды!*
*Каго любяць — малады!*

*Без пякельнай барады*
*не чарцяка з-пад вады —*
*Богам прынядзелены.*
*Краснасельскія масты*
*будуць абнадзеяны!*

**24.09.1988**


Фота svaboda.org

Вячка Целеш

## На паддашку

*У Рызе на вуліцы Брывібас, 40.*

*Сюды — спасцігнуць насалоду,*
*збірае Вячка свой «нектар», —*
*нібы ў пчаліную калоду,*
*каб*
*у беларускай рызе*
*з'явіць*
*яшчэ крыжацкай Рызе*
*крывіцка-краснасельскі дар.*
*Таму ў майстэрні адмысловай*
*жывуць і «жаўрукі», і «совы»:*
*яны ўжо многае схвалі*
*ў карáлі каралеве Валі.*
*(Бальзаміць гаспадынька пляшку —*
*пачаставаць іх на паддашку).*

**2.09.1989**

## Фігура

*Мы з Латвіяй даўно ў сваяцтве.*
*Князь Вячка з Кокнэсэ — радня.*
*З ім Вячка Целеш: у мастацтве*
*латышызуецца штодня.*

*Ён мае гонар! І каханак*
*не піша дрогкіх, у расе, —*
*а ў Рызе нарадзіў «Сьвітанак»,*
*Сцяг беларускасці нясе.*

*Час незалежных землятрусаў*
*узды́біў Латвіі тугу.*
*Да Вячкі сотні беларусаў*
*ў майстэрні адбылі чаргу:*

*увекавечыў у гравюры,*
*партрэт, экслібрыс ці пейзаж...*
*Дэ-факто, а пазней дэ-юрэ*
*на фоне Балтыі — фігурай! —*
*паўстаў зямляк і сабрыс наш.*
*Кажу я Вячку: «Дбайна сцелеш*
*ты пад «Вясёлкай[1]» свой абрус.*
*Дваішся мне, нібыта туз:*

*у профіль — гарадзенскі Целеш,*
*з анфасу — рыжскі беларус».*

**2003**

## Пад кронай радаслоўнага дрэва

**Вячку Целешу на 75-годдзе**

*Знікалі крыжакі з кіпучых вежаў...*
*І толькі з Вячкам зноў паўстаў пасад!*
*Натхняльніку крывіцкі рум належыў;*
*у Тэрветэ, у Сігулдзе цвіў сад.*

*О, з Вячаславам лёгка веча славіць*
*і з продкамі на гутаркі хадзіць.*
*Да скарбаў радаслоўя ён уставіць*
*кругляк —*
*і Неба скрозь Беларусь глядзіць.*

*Асветленыя Славікам аблічны*
*будзіцеляў і ваяроў зямлі.*
*З табою, draugs,*
*мы новы дзень прыклічам,*
*каб латышы з балткрэвамі жылі*

*на Даўгаве-Дзвіне не як сатыры,*
*а як пялёстачкі твайго штрыха.*
*І хай ад Вячкі Целеша — у вырай*
*не вымкне краснасельская страха.*

*Ты з-пад яе айчыннікам адкрыўся,*
*Францішка, Янку з Янісам сустрэў,*
*Ларысе, Зосьцы верас абагрэў;*
*Максіма лік тваёй рукой спавіўся.*

*Жыццё ідзе ў падбег, а «Маю гонар!»*
*ты прамаўляеш, патрыёт, здаўна.*
*Трымціць душа!*
*А для гадоў разгону*
*ў цябе ёсць*
*радаслоўная струна!*

**3.09. 2013**

## Для пасада і прастола

*«І сказаў Бог:*
*— Хай будзе цьвердзь*
*пасярод вады...»*

**Прысвячаецца прысутнасці Францішка Скарыны ў Рызе**

*Францішку ёсць ратунак —*
*ад крывічоў рыштунак:*
*ганок[2]! Ён абміне*
*парогі на Дзвіне.*
*Для плытагонаў «крэслы»[3] —*
*выпрабаванне: рэзва*
*прабіцца да рыгва[4].*
*У Рызе іх царква.*
*Для «Біблії» агляды:*
*Вялікадні, Каляды...*
*Тут з божаю хвалой*
*Скарына: Родны, Свой!*
*«Сьвітанку» ўверх — прыступкі.*
*Вунь з «Пеўнікам» галубкі...*
*Вядзе Скарына нас*
*у Храм, дзе вечны Час.*
*Вунь Целеша вітрыны*
*з партрэтамі Скарыны...*
*Не, крыжакі не спаляць*
*агучаную памяць.*
*Для нас Даўгава-жы́ла*
*пасад наваражыла!*
*Зноў па сухой вадзе*
*ў латышскай грамадзе*
*Скарына нас вядзе.*

**18.07.2017**

---

[1] Беларуская дзіцячая мастацкая студыя «Вясёлка» была заснавана Вячкам Целешам у 1989 годзе пры створаным ім жа Латвійскім таварыстве беларускай культуры «Сьвітанак».
[2] Гано́к — плыт.
[3] «Крэсла» — парог.
[4] Рыгво — вусце ракі.

# Браты



Міхась ЗІЗЮК


Фота postpost.media

Скупое, нібыта соннае, лістападаўскае сонца вяла праглядвала праз паўаблятелае лісце высокай старой бярозы. Добры, пагодлівы і бязветраны, дзень даўно перайшоў сваю палову. Надзея Іванаўна — хударлявая, невысокая, яшчэ даволі вабная жанчына — зірнула ў вакно і застыла на імгненне. Яна любіла такія дні з дзяцінства. Памятаецца зялёная балоцістая лагчына ў густым старым ельніку, дзе з татам збірала тугія крамяныя чарнагаловікі, — так называлі ў вёсцы баравікі з цёмнымі шапкамі — пасля поля з яшчэ нявыбранаю бульбаю, і вось такое лагоднае ціхмянае сонца. Засталося ў памяці на ўсё жыццё. Ды толькі калі яно было ўсё тое: і грыбы, і сонца, і тата? Здаецца, нядаўна, а жыццё прабегла, як заяц праз поле — хутка і амаль незаўважна.

Жанчына схамянулася. Што ж яна стаіць, трэба стол ладзіць, хутка сыны аб'явяцца — яе гонар, яе надзея, яе любоў. Гэта ж разам не прыязджалі з вясны, а вось сёння, на яе дзень нараджэння, меліся сабрацца. Старэйшы, Арцём, служыць у Мінску, у АМАПе, малодшы, Арсень, сёлета перайшоў на апошні курс універсітэта, што ў Брэсце. Харошыя ў яе сыны, не забываюць маці, нічога не скажа. Мо, і правільна яна зрабіла, што не пайшла другі раз замуж, хоць і клікалі, калі трагічна загінуў яе Аляксей — у лесе прыдавіла дзераўніною. Хто ведае, як аднесліся б дзеці да другога мужчыны, як склаліся б адносіны. А так выгадавала, вывела ў людзі. Старэйшаму тады ўсяго дзесяць было, а сёлета вось ужо сямнаццаць год, як няма мужа.

Яна ўздыхнула і ўзялася за справу.

Арцём прыехаў на сваёй серабрыстай «Аўдзі». Выйшаў з машыны, нетаропка выцягнуў сумку, агледзеў машыну, двор і толькі пасля рушыў на надворак. Яна выскачыла з хаты, выціраючы на хаду рукі.

— Сыночак!

— Прывітанне, мама, — сын цмокнуў яе ў шчаку. — З днём нараджэння цябе! І ад мяне невялікі падарунак.

Ён аддаў ёй у рукі нешта загорнутае ў паперу.

— Дзякуй, Арцёмка. Ой, навошта было траціцца, не юбілей жа які. Што гэта?

— А ты разгарні.

Радасная, яна з хвалянваннем раскруціла пакунак.

— Боты?! Ды такія модныя! Дзе ж я ў іх хадзіць буду? — усклікнула яна са здзіўленнем.

— Ды хоць куды — не ўсё ж у хаце сядзець, — сын заўсміхаўся, задаволены тым уражаннем, які зрабіў яго падарунак. — Знаёмая дзяўчына сказала, што гэта вельмі добрыя боты, цяпер самы шык. І не танныя да таго ж.

— Лепей бы ты тую дзяўчыну прывёз. Мо, ажэнішся ўжо?

— Рана мама мне, дый няма калі — служба.

Ён падхапіў сумку, порстка пакрочыў у хату. Надзея Іванаўна паглядзела яму ўслед, а сэрца злёгку кальнула — выліты Аляксей, і кроплі пабраў: такая ж павольная хада ўроскід, плечы такія ж шырокія, такім жа рухам свае кароткія валасы спрабуе назад адкінуць.

Забавіўшыся каля пліты, яна і не заўважыла, як у хату ўвайшоў малодшы, толькі адчула яго крокі. Сын трымаў у руках кветкі — буйныя агністыя ружы.

— Віншую, мама!

Ён, танклявы, як маці, з вялікімі сінімі вачыма, у якіх свяцілася радасць, абняў яе, прытуліўся да шчакі і затрымаўся на нейкі час. Цяпло разлілося па яе целу ад гэтай сыноўняй пяшчоты.

— Дзякуй, сынок, дзякуй. Як даехаў?

— Добра, маршруткі ходзяць без праблем. Але гэта не ўсё, вось табе новы шаль і рукавіцы такога ж колеру — не будзеш мерзнуць узімку.

Сын працягнуў ёй пакунак.

— Сыночак, дзякуй. Што ж ты трацішся, самому, пэўне, няпроста пражыць.

— Мама, я ж падпрацоўваю ў піцэрыі, хапае грошай.

— Добра, распранайся ды за стол — будзем вячэраць. Арцём ужо з гадзіну тут, і ў мяне ўсё гатова.

Старэйшы выйшаў з пакою:

— Ну, здарова, братуха.

Браты павіталіся. Яна ж, шчаслівая і злёгку захмялелая ад усяго — гэтага чаканага прыезду, сыноўняй увагі і падарункаў і ўвогуле, што ўсё сёння так добра і хораша, пабегла да пліты.

Пасля чацвёртай чаркі сыны разгаварыліся і, падсілкаваўшыся крыху, выбіралі на стале што смачнейшае. Яна ж падсоўвала ім розныя талеркі:

— Вось бульбачка, а вось грыбочкі, бярыце. Арсенька, ты збіраў іх. Памятаеш?

— Добра, мама, пасядзі, мы самі ўсё возьмем. Давайце яшчэ па грамульцы за маму, — захмялелы Арцём пацягнуўся да бутэлькі. — Эх, збіраюся прадаваць сваю ластаўку, куплю навейшую. Ёсць у мяне ўжо апарат на прыкмеце. Так што хутка, мама, прыеду на новай машыне, — ён перакуліў чарку.

— А грошы, сынок?

— Нам цяпер, пасля жніўня, добра падкідваюць, не крыўдзяць, грошы я амаль сабраў, — задаволена ўсміхнуўся сын.

— Не крыўдзяць, кажаш? — азваўся Арсень. — І колькі ты зарабіў на паламаных рэбрах і перабітых нагах?

— Малы, ты з глузду з'ехаў? Што ты гоніш? Дзе ты наслухаўся гэтых бэчэбэшнікаў?

— Не, ты мне адкажы: колькі табе даюць за кожнага збітага чалавека?

Арцём пачырванеў і сярдзіта засоп. Маці, адчуўшы нядобрае, спахапілася:

— Арсень, Арцёмка! Што гэта за размовы ў вас? Лепш пра дзяўчат пагаварылі б. А то мне ўжо і ўнукаў панянчыць хочацца.

— Ды я што, — буркнуў Арцём, пераэжоўваючы кавалак курыцы. — Гэта ж ён пачаў. Кожны працуе там, дзе можа — адзін на заводзе гайкі круціць, а другі парадак ахоўвае.

— Парадак? — з горыччу прамовіў Арсень. — За які такі парадак далі па рэбрах мне і маім сябрам?

— Сынок, што ты кажаш? — Надзея Іванаўна войкнула. — Цябе збілі? Што ж ты нічога не казаў? У цябе ўсё цэлае?

— Мама, не хвалюйся, гэта было даўнавата ўжо, дый ніхто асабліва мяне не біў. Калі далі некалькі разоў дубінаю, то гэта можна пераэжыць, але тое, што я бачыў, што там рабілі з людзьмі...

— Сынок, не хадзі ты на тыя акцыі, прашу цябе. Не трэба, а то не дадуць давучыцца, толькі нікуды не хадзі.

— Мам, не хвалюйся, калі ласка, я нікуды не хаджу. Праўда.

Арцём выпіў кілішак і выдыхнуў:

— Як гэта было? Калі? Чаму мне не сказаў?

— Проста. Мы ішлі па ходніках, нікога не чапалі. На нас наляцелі амапаўцы, пачалі малаціць дубінамі, кінулі ў аўтазак. Мабыць, недзе паблізу штосьці было, акцыя якая, ці што, не ведаю. Адвезлі ў міліцыю. Добра, што Дамінік паспеў патэлефанаваць тату — той працуе ў раённай адміністрацыі. Нас пратрымалі мо з гадзіну ўсяго. Прыйшоў нейкі начальнік, спытаў, дзе нас затрымалі, загадаў усіх адпусціць. Вось усё, што было.

— Ну, адбылася памылка, усялякае бывае, — палагоднеў Арцём, — для чаго ўвесь гэты кіпеж?

— Добра, нас пабілі — я прамаўчу. Але, прабач, мама, тое, што я паспеў убачыць там, у міліцыі — не забуду ніколі.

— Што ж там такога было? — ціха прамовіла маці.

— Табе лепш не ведаць. Калі захочаш даведацца, можаш у Арцёма спытацца. Мяркую, ён не толькі ведае ўсё, але і сам удзельнічае.

— Што ты пачынаеш? — скрывіўся Арцём. Ён узняўся, раздражнёна захадзіў па пакоі.

— Вось чаму ты мне не патэлефанаваў, я б таксама ўсё залагодзіў?

— Табе? Ды ты ведаеш, што я баюся гаварыць сябрам, што ў мяне ёсць брат, які служыць у АМАПе? Калі яны даведаюцца, то са мною ніхто і вітацца не будзе. Як табе гэта?

— Ды лухта ўсё гэта! — раптам узарваўся Арцём. — Абарзелі вы ўсе, вось што я скажу! Усё ж добра, нармальна жывём: зарплаты ёсць, кругом ціха і спакойна, машыну ледзь не кожны мае, вунь самалёты штодзень лётаюць у Егіпет. Што яшчэ трэба? Дык не, гэтыя бэчэбэшнікі, змагары праплачаныя, муцяць ваду, швэндаюцца па вуліцах. З-за такіх і нам спакою няма, ні выхадных, ні прахадных. І правільна робяць, што маloцяць іх, душаць. Правільна.

Арсень падняўся. Ён падышоў да брата, сціснуўшы кулакі.

— Выходзіць, і я праплачаны, і сябры мае, сябры маіх сяброў, іх знаёмыя — бо ўсе мы супраць гэтай сістэмы? Я шмат каго ведаю, хто выходзіў і выходзіць. Але ніводнага не ведаю, хто гэта рабіў бы за грошы. А такія, як ты, не закон і парадак ахоўваюць. Наадварот, яны яго парушаюць.

— Што ты ведаеш пра законы? — скрывіўся ўчырванелы ад раздражнення Арцём. — Смаркач ты яшчэ, ты жыцця не бачыў.

— Хай я смаркач, а вы ўсе там каты!

— Што ты сказаў?

Браты схапіліся за грудкі.

— Арцём! Арсенька! Што ж вы робіце! — адчайна закрычала маці і кінулася да сыноў. — Перастаньце! Як вам не сорамна, браты, называецца!

Арцём апусціў рукі, Арсень хутка адышоў ад яго на некалькі крокаў.

— Прабач, мама, але я не магу знаходзіцца пад адным дахам з чалавекам, які падтрымлівае ўвесь гэты гвалт!

Надзея Іванаўна не паспела нічога сказаць, як Арсень пайшоў на вуліцу. Бразнулі ўваходныя дзверы. У пакоі павісла напружаная цішыня. Маці села:

— Ну, вось, адсвяткавалі.

Яна ціха заплакала. Арцём памуляўся, падышоў да маці, асцярожна паклаў руку на плячо:

— Мам, не трэба, што ты. Нічога ж не зрабілася. Ну, пасварыліся — з кім не бывае. Ён астыне і супакоіцца. Не плач, усё будзе добра..

Надзея Іванаўна пакрысе супакоілася, выцерла слёзы. Крыху памаўчаўшы, ціха спыталася:

— Сынок, а гэта праўда, што казаў Арсень? Ты таксама біў людзей?

Арцём нервова затупаў па пакоі.

— Мама, і ты туды ж: біў, не біў. Я ж на службе, разумееш? Я ахоўваю грамадскі парадак, патрабую выканання законаў. Гэта мае службовыя абавязкі. Мне аддаюць загады, а я іх выконваю. Калі я не буду гэтага рабіць, то мяне звольняць. Гэта служба, разумееш?

— Так, сыне, я разумею.

Яна паднялася, апранула куртку.

— Мам, ты куды?

— Пайду пашукаю Арсеня — на вуліцы ж холадна, прастудзіцца яшчэ.

— Куды ён падзенецца. Вось паастыне — сам прыйдзе. На холадзе дурныя думкі хутка праходзяць.

Маці, нічога не адказаўшы, выйшла на вуліцу. Арцём, патупаўшы па пакоі, сеў за стол, плюхнуў сабе гарэлкі і са злосцю кульнуў чарку. Пасля ён падышоў да вакна, нейкі час углядаўся ў цемру. Нешта падумаў, зноў вярнуўся да стала, сеў і, падпёршы рукою галаву, сказаў сам сабе:

— Блін, чаму ўсё так складана? Эх, як жа яно ўсё дастала.

Было ціха, потым побач голасна забрахаў суседскі сабака. Брахаў ён доўга, але неяк лянíва, без злосці. Цёмнае, без зорак, неба вісела над вёскаю і ваколіцамі.

# Прошча неба



Зміцер ЗАХАРЭВІЧ

## Карнавал

*Над местам вальсавала канфеці,*
*Разводдзю ўсмешак пляца было мала,*
*Пануры не наважваўся прайсці*
*Без маскі скрозь гармідар карнавалу.*

*Луналі жычкі промнямі ў галлі*
*І, рыхтык у экстазе маліто́ўным,*
*За пацалунак струны мандалін*
*Са скрыпкамі вялі двубой жартоўны.*

*Спяваў натоўп, не могучы маўчаць,*
*Таму ніхто й не зглядзеў, як з задворкаў*
*З намерам фэст квяцісты разагнаць*
*Насунуліся грозна орды оркаў.*

*Ад целаў невыносны пах курэў,*
*Жахалі свет вачніцы балаклаваў,*
*Па рацыі загад хтось прахрыпеў —*
*І пачалася дзікая аблава.*

*Рассыпаліся чорныя шыхты,*
*Што шчэрыліся на ахвяр прыязна,*
*Драпежна зарыкаў сяржант-садыст,*
*Хвастаючы дручком па рэбрах блазна.*

*Ці кроў брук акрапіла, ці сляза.*
*Патрапіўшы дастаць П'еро па карку,*
*Бамбіза з асалодаю вязаў*
*Сваю здабычу — юную вядзьмарку.*

*Ад гвалту не схавацца анідзе.*
*Глядзеў бяссільна на расправу захад,*
*Як шчэ нядаўна радасных людзей*
*У пеклішча вазілі ў аўтазаках.*

*За ноч прыбралі строяў лахманы,*
*Сляды пунсовых лужын пазмывалі,*
*Вясёлых закавалі ў кайданы —*
*На памяць аб квяцістым карнавале.*

***

*Нікуды не патрапіць,*
*хіба толькі ў расстрэльныя спісы,*
*што пры змене рэжымаў*
*спешна ператвараюць у дым —*
*гэтак*
*вапнай засыпаных,*
*якія халопства зракліся,*
*у нябыт са спецхранаў*
*дэпартуюць*
*ужо назаўжды.*

*Бацькі будуць расказваць*
*дзецям*
*аб непрывабнасці лёсаў*
*безымянна забітых,*
*нямаведама*
*як,*
*кім*
*і дзе,*
*паслядоўна гадуючы*
*не*
*апантаных Гаўрошаў,*
*а лаяльных да гвалту*
*над сабой*
*ціхамірных людзей.*

*Ім лічыць падабайкі*
*да сэлфі*
*ў глыбі блогасферы,*
*дадаваць сарамліва*
*штораз да каментараў*
*«ІМХО»,*
*адно зрэдку і шэптам,*
*запавесіўшы*
*вокны ў кватэры,*
*на сямейнай вячэры*
*зніклых успамінаць*
*сваякоў.*

## Малітва перад боем

*Прашу, умацуй мяне ў веры,*
*Што ёсць я правіцай святой,*
*Калі запахне ў паветры*
*Чужынцаў пралітай крывёй.*

*Прашу, не пазбаў праўды права*
*Зацята выконваць загад,*
*Калі лунанне штандараў*
*Наўсцяж ахіне далягляд.*

*Прашу, дай мне сілы падняцца,*
*Калі ці свінец ці клінок*
*Апаляць у першай атацы*
*І я павалюся ў мурог.*

*Прашу, не пакінь без надзеі*
*На стрэчу ў альковах Тваіх*
*Усіх, хто дома збалеюць,*
*Як з бою не вернемся ў шыхт.*

*...Судзі, Усеўладны, нас строга,*
*За тое, што мы, у Цябе*
*Не просячы пра перамогу,*
*Здабыць пасмелі яе!*

## Белая кветка

*«Зачысціць» — з зямлі сцерці*
*Зышлі на менскі брук*
*Шыхты служакаў смерці*
*Уладна, як прысуд,*
*Ператварыўшы церні*
*Пакутаў у лазу.*

*Ахвяраў правакацый*
*Ляпілі са сваіх*
*Байцы дэзынфармацыі*
*З нахабнасцю барыг*
*За зорачкі і баксы,*
*Пакуль бой не заціх.*

*З дамоў, нібыта перхаць,*
*Блішчэлі аганькі,*
*Бо немыя паверхі*
*Праз вокны стрым вялі,*
*Як білі феерверкі*
*І «хуткія» раўлі.*

*А ў гледачоў трымцелі*
*У сэрцах жах і жаль,*
*І галасіла вера,*
*Калі пад стрэлаў гвалт*
*Надзея кветкай белай*
*Упала на асфальт.*

## На беразе

*Паводкай час за крайсвет мкне*
*Пад спеў птушыны на дзянніцы.*
*Пытае, што́ звініць ўва мне —*
*Ручай са шчодрае крыніцы*
*Альбо бясплённых дзён драбніца? —*
*І, не пачуўшы, не міне.*

*Імчацца хвалі напрасткі,*
*Бы выпрабоўваюць, ці здольны*
*Не прамяняць на медзякі*
*Душы багацце і быць вольным*
*Ад прымхаў роспачы назольных? —*
*Іспыт праходжу ля ракі.*

*Віруе, пеніцца вада —*
*Упарта падмывае бераг,*
*Дазнацца прагне, ці прадаць*
*Змагу я за гарэлы шэлег*
*Сябе, сяброў і іх давер? —*
*Дашукваецца адвідна.*

*Блішчыць вужачым целам плынь*
*Дарогаю да ўяўнай мэты.*
*Усцяж люструюцца на ім*
*Зіхценне юдавых манетаў,*
*Нячулае прадонне Леты*
*Ды зорка горычы Палын...*

*Даць мушу кожнаму адказ,*
*Бо не адкупішся чырвонцам.*
*Віры, паводка, хвалі, час —*
*Хто за крайсвет? Каму да сонца?*
*Трывацьмуць допыты бясконца,*
*Пакуль агмень жыцця не згас.*

## Беларуская восень

*Беларуская звыклая восень.*
*Дагарае на полі бульбоўнік,*
*Апавіў павуціннем дым промні*
*І памкнуўся вакол зямной восі.*

*Беларуская шчодрая восень.*
*Сады, поўныя спелай спакусы,*
*З Творцам свету ў давечным хаўрусе*
*Нам крамяную слодыч падносяць.*

*Беларуская немая восень.*
*З краю ў край апусцелае неба,*
*Не чуваць пералівістых спеваў,*
*Цішыня звініць аднагалоссем.*

*Беларуская злосная восень.*
*Незагойныя раны пратэстаў,*
*Не спякаецца кроў на пратэсах,*
*Каб ярмо ўздзець зноў не давялося.*

*Беларуская розная восень.*
*Час струменіць ракой хуткаплыннай,*
*Нібы картачкі фотаўспамінаў,*
*Вецер лісце кладзе пры парозе.*

*Беларуская ўладная восень.*
*Арабінай палае карона,*
*Мусім жыць згодна ейных канонаў,*
*А пасля з панны насмяяцёся...*

## Лісце-крылы

*Адгасае сонца ў цьмянай вышы,*
*Паміж пальцамі час сочыцца вадой,*
*Вецер мне кашулю гожа вышыў*
*Адшумелаю лістотаю рудой.*

*Майстру шчыра дзякую за працу,*
*Што пасуе да настрою і пары́,*
*І ўслед птушкам мушу выпраўляцца,*
*Бо аздоба на грудзях агнём гарыць.*

*Кроў бурліць у жылах нецярпліва,*
*Чую покліч несціханы з-пад аблок*
*Не ва ўтульны і бяспечны вырай —*
*Ёсць важнейшыя заняткі, далібог.*

*Па-над краем, праз дажджы настылым,*
*Скуль давечна мне няма куды ляцець,*
*Разгарну ўзор шыты, нібы крылы,*
*Каб зямлю пажарам лісця адагрэць.*

## Прошча неба

*Прошча неба на тваіх далонях.*
*Каб жа ўзняцца і з яе глынуць!..*
*І, пазбыўшыся ярма бяссоння,*
*У абдымках прамянёў заснуць.*

*Мне да іх сувоі кіламетраў*
*Скрозь самоту і паўночны сум*
*Непадобнага да іншых лета*
*Ды вакзалаў шматгалосы тлум.*

*І дарогай доўгай застаецца —*
*Часу і адлегласці на злом —*
*Верыць, што патольная пральецца*
*Прошча неба на зямлю дажджом.*

## Верш-стрэл

*Кароткі і ўзрушальны верш,*
*Бы стрэлу гук альбо ўдар шаблі,*
*Кладзецца на паперу зграбны*
*Кароткі і ўзрушальны верш.*
*Як узарэш, так і збярэш —*
*Заб'е ці ўзбурыць свет аслаблы*
*Кароткі і ўзрушальны верш,*
*Бы стрэлу гук альбо ўдар шаблі.*

## Неўтаймоўны

*«Я поля влюблённым постелю!..»*
***Уладзімір Высоцкі***

*Ізноў Сусвет акордамі працяў,*
*Без жалю струны абудзіўшы ўдарам.*
*Ці ж хто з адчаем гэтакім пяяў*
*Пад зыкі неўтаймоўнае гітары?*

*Слабы́х мацуючы, ішоў напрасткі,*
*Дзяліўся без астачы вышнім дарам,*
*Ўвасобленым у дзёрзкія радкі,*
*Пад зыкі неўтаймоўнае гітары.*

*Штораз да сэрцаў падбіраў ключы —*
*Піў без ваганняў з суджанае чары,*
*Заўзята голас і канцы ручны*
*Пад зыкі неўтаймоўнае гітары.*

*Які цяжар — нябёсы на плячах!*
*Як у грудзях шугае боль пажарам!*
*Аднак у публікі надзея на працяг*
*Жывая з неўтаймоўнаю гітарай.*

*А ў дзень, калі нарэшце адбаліць,*
*Зірне назад з расстайнай пераправы*
*На кветкамі засланыя палі*
*Пад зыкі неўтаймоўнае гітары.*

## Аляксею Марачкіну

*Дзень адзычый палатна туманаў.*
*Хочаш, напішу на ім твой дом? —*
*Тропікі, ўзбярэжжа акіяна,*
*Што да ног хінецца шчанюком.*

*Хочаш, будзе дом на схіле горным,*
*Вольным ад сямі ліхіх вятроў?*
*Дзе —*
*ў Карпатах, Альпах, над фіёрдам, —*
*Частавацьмеш з далані арлоў?*

*Можа, хочаш дом між гонкіх хвояў,*
*Чуць уцешна, як ручай звініць,*
*Покуль зранку ў росным сырадоі*
*Ты збіраеш пацеркі суніц?*

*Хочаш места ў старасвецкім строі —*
*Пляц перад катэдрай і трамвай,*
*Месяц над дахоўкаю, а двое —*
*У кавярні пад сузор'ем Льва?*

*Пэндзаль фарбы падбірае ўмела —*
*Пёркі хмарак, верасовы край...*
*Бачыш, нават неба праяснела —*
*Цэлы свет перад табою.*
*Выбірай!*

## Святляк надзеі

*Яшчэ мігціцца праз гады*
*Паўночным светляком надзея,*
*Хоць раззяваныя раты*
*Нялэўнасць у задумах сеюць.*
*Вярзуць пра незайздросны лёс,*
*Прарочаць марнасць намаганняў,*
*Што не валошкі, а быльнёг*
*Мне прынясуць на пахаванне,*
*Што маладзёны сёння скрозь*
*Папярэдзе і ў згодзе з часам.*
*Ды час умоўнай мерай ёсць,*
*А я — не сябра модным блазнам,*
*Крыклівым пеўням пагатоў.*
*Пад брэх і рохканне іклястых*
*Іду ад зыбкі да кладоў*
*Сваёй дарогай пакручастай,*
*Не запавольваючы крок*
*На злосць нязмоўчным «дабрадзеям»,*
*Пакуль мігціцца цераз змрок*
*Нязгасным светляком надзея.*



Фота megaobzor.com



Людміла АНДЗІЛЕЎКА

# Жэка
## (Дзённік нянькі)

Паўтарагадавалы Жэка даядаў астаткі баршча, і тут якаясь халера штурхнула мяне пацягнуцца да палічкі па маленькі простакутнічак файлаў, па абодва бакі старонак у ім былі паўстаўляныя каляровыя здымкі. Звычайна маці забаўляла Жэньку гэтымі фоткамі, падманам торкаючы ў рот лыжку кашы ці булёна. Навошта спатрэбіўся ён мне? Дзіця паела. І вось: абед зноў на стале! Хлопчык прыгледзеўся да адной з фатаграфій, пазнаў маці, торкнуў пальцам у здымак, устрапянуўся, балюча прыпомніў, зморшчыў тварык, глянуў запытальна на мяне, зноў ткнуў пальцам у фотку — на мяне! Ён мыкаў, трос галавой, патрабуючы тлумачэння. Ускладнялася сітуацыя нематой: малы зусім не размаўляў, ні слова, нават МАМА для яго заставалася неназоўнай. Жэка зароў горка, несуцешна. Яго вывернула на стол. Я бегала вакол дзіцячага крэсла з рушнікам і мулкай непавагай да сябе з-за жудаснай памылкі.

Дзіўна ўстроена памяць дзіцяці: не бачыць — не памятае, убачыў — успомніў. Маці хлопчыка паехала ў Піцер на тры дні, без усялякай мітрэнгі ён заставаўся са мной у дзень і ноччу. Трэба ж было так сапсаваць настрой малому перад самым вяртаннем маці!

Вета таіла ад сямейных будучую камандзіроўку. Мужа не баялася, але падманвала яго стабільна і рэгулярна. Такімі бачыліся ёй умовы прыстойнага сямейнага жыцця. Па гэтай вандроўцы Слава не запярэчыў бы ні словам, як і наогул рэдка пярэчыў маладой жонцы, ды мог прагаварыцца сваёй маці, а са свякрухай Вета трымалася дыстанцыйна.

За месяц, мо раней, я дала згоду на працягу трох сутак адседзець з малым «бязвылазна». І наконт аплаты Вета засталася задаволенай, распавёўшы мне перад тым пра «нахабную» папярэднюю няню, якая запатрабавала ў такім самым выпадку аплаціць кожную гадзіну. Я аддала права ёй самой назначыць ганарар. Праўда, выставіла жорсткую ўмову: ноччу ў кватэры акрамя мяне і хлопчыка нікога не павінна быць. Не ведаю, як Вета з мужам дамаўлялася — бацька Жэнькі зусім не зразумеў патрабавання, відавочна абурыўся і нават пасля ад'езду жонкі ў Піцер у дзесяць гадзін вечара, на адыход, паспрабаваў высветліць прычыну такога майго капрыза. Трое сутак у чужой кватэры — не самыя псіхалагічна камфортныя ўмовы існавання для мяне, тым больш, калі будзе тут знаходзіцца чужы мужчына. Слава зразумеў — ці не: жытло пакінуў. Трэба аддаць яму належнае — хваляваўся за сына. Ранкам прыбег з кантрольным візітам, супакоіўся: Жэка адчуваў сябе прывольна і па-гаспадарску.

Чаму, пры наяўнасці двух не занятых працай бабуль, хлопчыка прыйшлося пакідаць на няньку — не пыталася. Свякроў унука даглядзела б, каб пакінула прэтэнзіі быць у сям'і сына гаспадыняй і не мела дурной звычкі выказвацца крытычна супраць нявестчынага бізнесу, «пустой забавы» — Мэры Кей.

Наконт сваёй маці Вета дарэмна ўзялася апраўдвацца: «Вы не думайте: она совсем не алкоголичка, просто не доверяю ей». Прыйшлося думаць: значыць, алкагалічка. Пацвердзілася: першы вечар па адсутнасці дачкі Жэкава бабуля прыехала на чырвоным аўто пад (густым і выразным) шафэ. Машыну Слава прэзентаваў Веце, а тая аддала аўто маме, з надзеяй атрымаць ад мужа яшчэ лепшую марку.

Па назіральнасці і схільнасці да развагі я прыкмеціла ўсе мадуляцыі і адхіленні ў танальным раскладзе сям'і, яе галоўныя лейтматывы і пабочныя партыі ў першы ж рабочы дзень, калі Жэка заснуў пасляабедзенным часам, а Вета не дазволіла мне хоць чым-небудзь заняцца, дапамагчы ёй: на канапе ляжала гара мытай, не прасаванай вопраткі, не пашкодзіла б і павільгоціць падлогу — адпачывайце, глядзіце тэлевізар. На такі «занятак» не згадзілася я. Вета на дыбачках сходзіла ў пакой, дзе з падушкай пад жывоцікам, стоячы на каленях і локцях (улюбёная поза) спаў Жэка, прынесла вялізнага памеру вясельны альбом. Раскінула яго белыя скураныя, амаль паўтараметровага размаху, крылы і, як на тэатральнай афішы, перада мной паўсталі дзеючыя асобы.

Вета ганарылася вяселлем, падвянечным строем, фотаздымкамі, альбомам, за які агулам, з фотасесіяй, афармленнем (пахвалілася) прыйшлося аддаць больш за тры тысячы даляраў. Не гледзячы на тое, што «фасады» фотагероеў былі старанна закамуфляваныя майстрамі-цырульнікамі сярэдняй рукі, фавіцскага стылю касметыкай, кідкай аксесуарамі, прэтэнцыёзнасцю колераў і фасонаў не таннай, але базарнай вопраткі — на кожным твары лёс чытаўся выразна.

На вясельных здымках адлюстроўвалася праслойка грамадства, не вельмі спакушаная інтэлектам і духоўнымі пошукамі. На тварах адбівалася прагная мара альбо ўжо дасягненне — «из грязи в князи». Здымкі маглі паслужыць тэстамі-дапаможнікамі для падручніка студэнтам факультэта псіхалогіі. Маці жаніха: яўна — у мінулым галоўны бухгалтар якогась матэрыяльна прыбытковага прадпрыемства, пад занавес даведзенага да банкрутства намаганнямі кіраўніцтва, набраўлага з «дазволу» працоўнага калектыву бездасоткавых пазык. Відаць, удалося выкруціцца — «не сядзела». «Канкрэтная», бадзёрая, самаўпэўненая, пад шэсцьдзясят, досвед ва ўсіх сферах дзелавых кантактаў, яшчэ — выдатны таваравед ад прыроды і па прычыне спрыяльных умоў, бо без магчымасці бачыць, мець і параўноўваць — ніякія здольнасці не разаўюцца: адна на ўсіх фота прыстойна апранутая, дабраякасна, камфортна, без лішніх дэталяў і кідкіх брандзэлак. Сапраўдная гаспадыня ўсяго, што тут адбываецца, на вясельных здымках. Без сумневу: фінансаванне банкета, фотасесіі і спадарожных расходаў вялося з яе кішэні. Аналітычна-кантралюючы позірк — усё схоплена! Б'юся аб заклад: свой дзень народзінаў жанчына спраўляе ў чэрвені. Толькі «блізняты»-жанчыны здольны так проста і лёгка арыентавацца ў гэтым трохмерным свеце, так віртуозна валодаюць лагістыкай матэрыяльнага начыння прасторы; яе відавочна-асязальнай утульнасцю карыстаюцца напоўніцу. Побач дачка, сястра жаніха, маладзіца нявызначанага ўзросту: трыццаць, сорак? Шчыльна залізаныя над высокім ілбом якогась невыразнага колеру валасы ў сціплы дыстрафічны хвасток-пэндзлік, не спешчаная доглядам ці хоць бы неабходнай патрэбай у сілкаванні шэрая чахлая скура; патухлыя вочы дэкларавалі: не трэба мне вашае ўвагі, не трэба прыязнасці! І любоў ваша зусім не патрэбна! Я ўсіх «прэзіраю»!.. Дачка пры маме выглядала, як пры «Мерсэдэсе» дробнагабарытны прычэп без нумароў, фар і адпаведнага дакументу, годны для перавозкі на дачу ламачча, праўда, і «Мерсэдэс», хоць і ў добрым тэхнічным стане, але ўсё ж бэушны.

Дачка вынашвалася ў жудасны перыяд жыцця, у стрэсе — саперніца ў той самы час насіла ў сваім жываце сястру для гэтага дзіцяці. Патрабавалася адно дзіця пакінуць, другое — прызнаць, ці наадварот. Выбраць іншае рашэнне, бяскроўнае, безахвярнае не хапіла ні розуму, ні любасці, ні дабрыні, ні сацыяльна выпрацаванай культуры. Вось яна, тая жанчына, у другім шнурочку калектыўнага здымка, перадапошняя з левага боку, апошні — ён, муж, бацька няспраўджаны. А тая, на каго за ўсё жыццё назапасілася столькі нянавісці: агонь павінен быў спапяліць «сястру», стаіць за ім, руку паклаўшы на плячо, бы сцвярджаючы: мой! Ні аднаго адкрытага позірку ў той бок — а шыю сутаргай зводзіць, так хочацца зірнуць на ЯГО — стрэмка дзіцячай душы, балючая, пякучая, на ўсё жыццё спрутам прарослая ў сэрцы. Не глядзець! Там зладзейка, украла самае дарагое, самае жаданае — бацьку, дзяцінства, зламала жыццё, адабрала шчасце навек.

Наступны здымак здзівіў падабенствам жанчыны з нявестай — маці. Тая ж мініяцюрная камплекцыя, тая ж безабаронная жаноцкасць абянтэжваючага прыгажосцю твару, тут — моцна патрапанага жыццём. Вульгарная чырвоная сукенка на жанчыне бальзакаўскага веку — не ад жадання захапіць увагу на сябе нават ад нявесты-дачкі: што было лепшае, як Вета палічыла, тое дала маці ад свайго гардэроба апрануць. Два дзецюкі ля яе — якім бокам да гэтай кампаніі? Абодва спехам голеныя, халявай стрыжаныя — ці не Вецінай рукі кліенты? Тварамі жаласныя, учарнелыя, пакоцаныя. На неахайных чарапах — шнары, зусім не тыя, што мужчын упрыгожваюць: без дактароў, самапашшу гоеныя «баявыя раны», адмеціны воспін, плямбы, пароспыя дзікім мясам язвы замест незваротна страчанага валасянога пакрова. Адзін — сын, брат Веты, другі маладзён — сябрук сына і заадно мамін «муж», кавалер. Гэты тут нелегальна, прыбег на хвілінку за «выбачальнай» бутэлькай — вось жа яна, адтапырвае нагрудную кішэню. Усё, больш хлопца сярод гасцей не адшукаеш — гаспадыня праграмы адмовілася фінансаваць «усякую шваль».

Быццам выпадкова ў гэты балаганчык заблукала крохкая постаць нявесты. Акуратная белая галоўка, густоўна прычэсаная ў лепшым салоне; прыемныя, своеасаблівыя рысы твару, майстравіта скампанаваныя прыродай, выразныя вусны прыгожай рэдкай формы. Вочы блакітныя са срэбраным водблескам і даволі разумным позіркам для зусім не адукаванай (восем класаў) дзяўчыны. Не высокая ростам, шчупленькая цалам.

Дзіўнай неадпаведнасцю кампаніі нявесце цэрымонія напомніла вядомую колішняй рэпрадукцыйна-інтэр'ернай папулярнасцю карціну Васіля Пукірава «Няроўны шлюб». Фотажаніх нічым не напомніў «жывапіснага». Мужа Веты, бацьку Жэніка, я на той першы працоўны дзень яшчэ не бачыла. На здымку — хоць і за сорак, але даволі імпазантны мужчынка. Модны вясельны гарнітур з іскрой сядзіць на ім някепска. Было ў вачах дудзькаватага жаніха штосьці дзіцячае, кранальнае, блізкае дзетдомаўскаму сіраце — жаданнем спадабацца першым сустрэчным «патэнцыйным прыёмным бацькам». Нявеста, амаль у два разы маладзейшая за мужа, вытрымлівала належны цяперашняму яе статусу спакой і прадчуванне забяспечанай будучыні.

Агульнае ўражанне — клас двоечнікаў-недавукаў, так і не адолеўшых экзаменацыйныя іспыты, купка нешацунцаў, памылкова трапіўшых не ў свой кампот. Жаніх быццам і не здагадваўся, як апынуўся ён на свяце пад незразумелай яму назвай — жыццё. Сястра, з нараджэння пакрыўджаная на ўвесь свет самім працэсам свайго існавання, нібы адбывала павіннасць. Іх здраднік-бацька прэтэндаваў на паўнавартае асэнсаванне. Новая сям'я яго і зусім — пагуляць выйшла: пацыху паслася на агароджанай пожаньцы. Два тут выпадковых дзецюкі мелі права на паўнавартаснае, фізічна здаровае існаванне ў грамадстве, каб выхоўваліся адпаведна назначэнню, знойдзенаму і апраўданаму месцу: лёгка сталі б харошымі рабацягамі, маглі б паважаць сябе за спрыт і зграбнасць, любіць жонак, гадаваць дзяцей; навучанымі, аднак, былі яны з зайздрасцю назіраць у экране тэлевізара «крутое» жыццё «зорак» замежных ці хаця б ілюзорнага бескалпотнага балдзяжы на вечным пляжы акіяна шчасця, хаця б праз алкагольны падман набліжаючыся да віртуальных ідэалаў. А нявеста, пры сваёй вабнасці (можа, праўда, — дачка лётчыка?) лёгка ўпрыгожыла б нябесны рэй пасажырскага лайнера на замежных маршрутах: сцюардэса з яе атрымалася б сапраўдная, пекная, разумная, далікатная. І маці нявесты лёс гатаваў шырокі выбар шляхоў — такая першародная жаноцкасць несла шмат варыянтаў прымянення: яна цанілася высока, ды часцей каштавала — нішто. Толькі маці жаніха — цэльная, падрыхтаваная, годная да ўсіх выпрабаванняў і складаных варункаў таемнай, негалоснай сістэмы нашага хворага грамадства...

Сустрэча маладых адбылася ў прыходзе евангелісцкай царквы, куды заагітавалі пацыентаў рэабілітацыйнага цэнтра, дзе лячыўся Слава ад алкагольнай залежнасці. Як у царкве апынулася Вета — не запыталася...

Яна цікавілася маімі дзецьмі і ўнукамі, што забараняецца ў падобных стасунках. Магчыма, спрацоўвала асабістае выхаванне і душэўная цеплыня Веты. Хто б ні завітаў у двор, звычайна прафілакторскія сябры Славы па царкоўнай завядзёнцы гасцююць штотыднёва адзін у аднаго (Слава запрашаў дапамагчы па гаспадарцы: абкасіць траву, штосьці адрамантаваць), першае — за стол. Сама Вета, як птушка, — толькі дзюбне па талерцы, а ежы ў яе заўсёды нагатавана, і нікога за дзверы не выпусціць не накормленым.

Але прыбытку ад бізнеса Вета, і сапраўды, не мела. Зусім не была прывіта з жабрачага дзяцінства ёй звычка берагчы і даражыць кожнай заробленай капейкай.

— Мы здесь на раёне в бараке жывём. Наш деревянный барачный район посёлком называют, — распавядала Вета пра сябе. — Отец лётчиком (?) был. Сильно пить начал. Потом пропал совсем. Маму и нас семь лет таскали на допросы — подозревали в убийстве. С нас весь посёлок смеялся. Бомжами обзывали. А потом оказалось, что папу в безымянной могиле закопали, как неизвестного. Закрыли дело не так уж давно...

Набраныя пад продаж каробкі вельмі не таннай касметыкі стаялі ў сырым гаражы, валяліся скамканыя фірмовыя ўпакоўкі. Ля сабачай будкі замест косткі Дунай грыз імпартную тубу з крэмам. Жэнік любіў цягаць з маміных запасаў сабе ў цацкі стылёва аформленыя флаконы духоў, грэмзаў па сценах касметычнымі алоўкамі, тачыў зубкі аб тоніку, пудры, памады. Вету не засмучалі згубы, перавысіўшыя іншым разам прыбытак з продажу. Лічыла сябе

Заканчэнне на стар. 7 »

# Жэка
## (Дзённік няньки)

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6


Фота zbk.ru

заможнай жанчынай і звычкі выпрацоўвала адпаведныя. Запрошаная на святкаванні народзінаў шматлікай радні, сваякоў, сяброў выпраўлялася ў самы круты фірмовы магазін, выбірала падарунак, не пытаючы цэннікаў. Яна ўмела спыніць свой позірк на мужавым твары так, што той імгненна пачынаў нервавацца, чырванеў, ускіпаў.

— Мне их рисовать? Станка печатного не имею. — Аднак вечарам грошы прыносіў і стараўся забыць на нейкі час пра тое, што бізнэс трашчыць па ўсіх швах.

Яму перапала ад мамы будаўнічая фірма, якая «выйграла» выгадны тэндар і магла квітнець. У цэнтры сталіцы ў буйным парку завяршалася будоўля сучаснага рэстарана-піўбара. Але Слава захлынаўся ад безвыходнасці. Нібы другагоднік, вучань малодшых класаў, ён увесь працоўны дзень вырашаў невырашальную задачку: як напоўніць басейн адной, амаль ужо перакрытай, трубой, калі з яго выцякае вада праз пяць адразу. За «аўдзіт» маме і сястры меўся не малы заробак, яшчэ трэба было выкраіць «прэміяльныя» на іх абавязковыя адпачынкі ў харошых прыморскіх гатэлях. Вецін «Мэры Кей» цягнуў бясконца шалёныя грошы, даводзілася трымаць лішнюю адзінку шафёра выключна на «дзелавыя» паездкі жонкі, бо аўтамабіль яна аддала маме. Прыстроеныя на фірму патрабаваннем Веты рознарабочымі брат з цешчыным ухажорам мулялі вочы спецыялістам-работнікам, якім, і праўда, не пашкодзіла б павысіць заробак, хаця б за кошт уборкі будаўнічага смецця і дробных пабочных паслуг, за што атрымлівалі цяпер сваякі, а смецце гарой ляжала ля бытоўкі і пагражала штрафамі. Стаяў у Бараўлянах, развальваўся недабудаваны дом. Маці яшчэ ў «дзевяностых» назбірала па падкантрольных прадпрыемствах «бязхозная» будматэр'ялу і зляпіла двухпавярховы каркас на высокім фундаменце. Цяпер, дзякуючы добра заглыбленаму падмурку, яны маюць асобнае някепскае жытло. Перад тым, як справіць вяселле, маці Славы наняла брыгаду і ў паўпадвальным памяшканні пад будучым домам адбудавалі, адрамантавалі шыкоўную двухпакаёвую кватэру.

Вета адчувала сябе непаўнацэннай гаспадыняй жытла, не столькі з-за адсутнасці прапіскі — яна саромелася паўпадвала. Адразу пасля вясельнага альбома прадэманстравала глянцавы каляровы гросбух: праект інтэр'ера будучага дома, які пакуль што ганебна ўзвышаўся над іх кватэркай, канстатавала яна. Царскія харомы! Але спачатку не пашкодзіла б дабудаваць сам маёнтак. А на яго якраз грошай не хапала.

Мне цяперашняя іх кватэра здавалася сапраўдный марай — так тут усё было ўтульна, прыгожа. Задняя сцяна высокага блочнага дома-каркаса стаяла ў нізінцы, і ўваход у падвал месціўся там — звычайны першы паверх. Не глыбокія, акуратныя прыступкі, з мастацкім афармленнем каменнай агароджы вакол іх, стваралі мікрапляцовачку перад уваходным тамбурам, аздобленым прыгожай пліткай ад падлогі да столі. Ён жа служыў гардэробам. Далей, за стальнымі дзвярамі, ішоў калідорчык з ацепленай падлогай. Направа — прасторная кухня з усім верагодным і неверагодным сучасным побытавым начыннем: машына для мыцця посуду, электрычная пліта з духавой шафай, мікрахвалёўка, бар, мельнічка, міксары, кавамашына, тостары, блэндары... Пад столь — лядоўня, набітая якаснымі прадуктамі. Далей ішла бытоўка — лепшай фірмы керамічнае абсталяванне: шклометал, унітаз з бідэ, пральная машына апошняй маркі, побач машына-сушылка. У куточку душ-кабіна, тут жа Вецін касметычны столік з камодзікам пад жаночыя дробязі і шафа пад прас з гладзільнай дошкай — стацыянарнае ўніверсальнае абсталяванне! Калідор упіраўся ў спальны пакойчык: уздоўж сцяны люстраная шафа, шырачэнны ложак і Жэнікава люлька. Налева з калідорчыка, насупраць кухні, зазывала ў гасцінную залу бяздзверная арка, там, акрамя кутняй мяккай канапы седакоў на пяць-шэсць і шырокаэкраннага тэлевізара, не было нічога, ну яшчэ куточак з Жэнікавымі цацкамі. Вонкавая сцяна гасцінай у сонечную пагоду цалкам расчынялася шклянымі дзвярыма — ветліва запрашала ў палісаднічак. Яго даглядалі ўсё тыя ж Славіны прафілакторцы.

Ландшафт псаваў недабудаваны дом-каркас. Агароджа вакол пляца стаяла дабротная, вароты раз'язджаліся перад аўтамабілем ад кнопачкі, дагледжаны двор: шашлычная, дэкаратыўныя расліны, арэлі пад парасонам, кветнік, ходнік. Сабака, улюбёнец гаспадара, не адпавядаў вартаўнічай пасадзе — віляў хвастом перад кожным госцем-захаджанцам, кідаўся лізаць рукі і падвізгваў ад празмерна эмацыйнай натуры. Сядзіба патрабавала пагашэння працэнты падаткаў і рахункаў. Без маці не выпадала вырульваць, а Вета па-ранейшаму са свякрухай трымалася занадта незалежнай.

Свякроў выбірала дзень, прыходзіла на дыпламатычную перамову з нявесткай, выгаворвала за непрыстойны лад жыцця сваці, патрабавала гнаць прыжыванца з законных Веціных квадратных метраў у «пасялковым бараку». Здавалася: Веціна сям'я поўным ходам утрымліваецца і раскашуе на яе кроўныя грошы.

Крывавыя грошы, удакладняла. Маладосць страчана на іх здабычу, зады лізаць даводзілася начальству, на ўсе загады згодна і ліслiва ківаць галавой, падпісваць крымінальныя дакументы. Хацелася мець дом — поўную чашу, каб дзеці ні ў чым не зналі адказу. Здавалася: вось-вось надыдзе момант, можна будзе спыніцца, — хопіць, «у нас усё ёсць».

Ды, як жартавалі яе калегі, — «нет границ у множества». Здрада мужа падкасіла раптам. Жыў, як у Бога за пазухай: накормлены, дагледжаны, чысты — чаго не хапала? «Я такими трудами и хитростью заполучила свою первую машину! А этот рыжий чёрт на ней бл..дей взялся катать. Мне сообщили — чуть сознание не потеряла! Беременная, срок поздний, ничего не изменишь. Уговаривала, запугивала, требовала, совестила. Сын в критическом возрасте — отец, мужик нужен — глаз да глаз! Связался со шпаной, а что я могу? Болезненная малая на руках, как связали меня. Вот и полетел Слава под откос. Еле-еле вытянули, ему ни капли в рот нельзя! Закодировали у этой, как её... В телевизоре рекламируют, забыть бы на век! А как потом это скажется, чем обернётся постороннее вмешательство в психику?»

Вучыла Вету эканоміць, прасіла спыніць дурны бізнес: «Займись ребёнком!».

— Пусть благодарит, что живу с её сыном, — намякала Вета на штосьці інтымнае. — Да он как мужчина — ни-ка-кой!

Вета, не гледзячы на яе гутарковыя «пилимени» і эсэмэсачныя «падождите патом набиру вас в бес саракапити минут два, очинь занета сичас» бачылася мне вельмі мілай і прыемнай маладзічкай. Яна распавядала пра свае дзявочыя прыгоды. Гэтаму дзіцёнку пашанцавала! Магла паўтарыць лёс бацькі.

— Был у меня парень! Очень любила его. В милиции работал. Чуть не убил! Он и раньше любил распускать руки, избивал меня сильно. Однажды встретились на съёмной квартире, а у него в очередной раз «крыша поехала». Не помню даже, как удалось убежать, от смерти спастись. Вот он был мужчиной — как с ним в постели класно!»

Жэнікаў дзед адчайна імкнуўся выпраўляць памылкі маладосці, наведваў унука штодзён, любіў яго, закідваў падарункамі. Прызнаваўся, што цалкам вінаваты ў праблемах дзяцей, не раз гатовы быў «укусіць сябе за локці» — што ж гэта дасць? У новай сям'і нічога райскага не чакала, і тут позна вяртаць — зруйнавана ўсё. Ён нікога не вучыў жыць і не папракаў. А за што папракаць? Яго бурная маладосць, а зараз поўнае ўтрыманне сям'і сына, дачкі вяліся з вялікай ласкі былой жонкі.

Як дзве найлепшыя сяброўкі, Вета са сваёй маці шапталіся на кухні, дзяліліся жаночымі сакрэтамі. Бабуляй Жэніку маці Веты была адмысловай — нічога і ніколі не забараняла, торкала тыднёвай «свежасці» торцікі, скармлівала яму шакаладку цішком, увагі не звяртаючы на алергічнае высыпанне. Хлопчык, якому яшчэ не споўнілася два гадкі, чатыры разы пабываў у рэанімацыі з атручваннем. Свякроў выстаўляла ультыматумы.

— Я сама приму решение, — ахалоджвала яе абурэнне Вета.

Жэка бегаў па кватэры, як Маўглі — так і звалі яго сямейныя, «на чатырох лапах», бы коцік ці сабачка. Менавіта так малому было зручней рухацца — не поўзаць, не хадзіць — на прамых канечнасцях. Хуткасць развіваў адпаведную кату — «триста долларов», — спаборнічаў у даганялкі. Падрапаны, пакусаны, з адбітым носам (у адсутнасць нянькі заваліўся на каменныя прыступкі тварам), ён ніяк не хацеў разумець чалавечыя словы, не хацеў паўтарыць ні гука.

Жэка хвараблiва рэагаваў на бацьку. Ён так імкнуўся да яго, так трымцеў ад рэдкай нязграбнай увагі, часцей за ўсё завершанай жартоўным звонкім лепяком пад зад, што ўцiснутая ад нечаканасці ў прыўзнятыя плечыкі галоўка застывала на колькі хвілін у заваражаным стане. Потым — адчайны плач ці то ад пралангіраванай крыўды, ці ад убачаных праз акно хуценька збягаючых на работу бацькавых ног. Запозненае разуменне падказвае — адчувала дзіця. Дзеці ўсё ведаюць, усё разумеюць і адчуваюць усё...

...Тры месяцы хадзіла я праз тамбур, адчыняла-зачыняла дзверы. Чаму ў той дзень дзверы здэтанавалі інакш? Перад маім носам праляцеў стылёва выканаваны керамічны евангелісцкі крыж — ён вісеў пад столлю ў кутку, бразнуўся на пліткай машчоную падлогу і разляцеўся дробнымі асkалёпкамі. Посуд біла я тут не раз — ніколі не пачула папроку, а ў разбітым крыжы маёй віны і зусім не было. Не прымхлівы я чалавек, а ўбачыла вечарам, якраз у дні адсутнасці Веты, — ладзіцца шашлык у двары, ля мангала на століку некалькі бутэлек віна — трывога пасялілася ў душы. Хоць бы Вета дома была...

Май прынёс шалёную эканамічную праблему — долар сiганулў у разы, чэргі барыг начавалі ля абменнікаў. Вета выбачалася, з шкадаваннем паведаміла пра немагчымасць у новых эканамічных варунках трымаць няню, яна да канца засталася добрасумленным чалавекам і працадаўцай: знайшла для мяне новую сям'ю, якой тэрмінова патрабавалася няня, дала харошую рэкамендацыю. Там, праз год, ад маці Златкі, я і пачую жудасную навіну: Слава памёр. Ён сарваўся з кадзіроўкі, «па чорнаму» запіў. Перад гэтым страшным здарэннем Вета з Жэкам сышлі з дому — свякруха выгнала. Славу знайшлі раніцай ля сабачай будкі. Святлане пра смерць мужа нават не паведамілі. Дазналася ад сяброўкі з тэлефоннай размовы, выпадкова.

— Что ты собираешся делать, Светлана?

— Вот договорились со Славой встретиться, обсудим, как дальше быть.

— Ты разве не знаешь?!. Славу сегодня хоронят...

У Веты застаўся на памяць ад «шчаслівага замужжа» белы вясельны альбом у шыкоўнай скуранай аправе, у Жэкі — барак, сорак квадратаў на паях з сям'ёй бабулі, заўсёды цёплай, вясёлай і бесклапотнай.

Як і дыктуе справядлівасць жыцця, уся нажытая маёмасць, «аплачаная крывавымі мазалямі» і крывавымі ж слязьмі, засталася пры сваёй гаспадыні.

# Птушка слова



Рычард БЯЛЯЧЫЦ

### Сустрэча

*Саб'юся са шляху, што дрэнна.*
*Ці нават на шчасце, быць можа,*
*Нарэшце, Радзіму сустрэну*
*На ціхіх прыступках Каложы.*

*Такія блакітныя вочы,*
*Прыгожа-руплівыя рукі.*
*Я дзесьці страчаў іх аднойчы*
*Пад вальс*
*Ці пад водсветак гулкі.*

*Усходзіць вянок васількова,*
*Асмелішся глянуць калі ты.*
*І словы,*
*Спрадвечныя словы*
*За ёй паўтараеш малітвай.*

*Прыпомняцца Грунвальд і Полацк,*
*І кожны пагорачак пыльны.*
*І будзе гучаць яе голас*
*З-пад сэрца майго,*
*Як з-пад Вільні.*

*Сустрэну на мамінай сцежцы,*
*Што дзесьці згубілася ў жыце.*
*І вы яе моцна пацешце:*
*Прыйшоўшы сюды,*
*Памаўчыце.*

### Зорка

*Недзе свеціцца, мігае,*
*Не сумуе ні аб чым*
*За высокім цёмным гаем*
*Кучаравых аблачын.*

*Каб жа ведала, ёй колькі*
*Прысвяціў я добрых слоў,*
*Прыляцела б вымыць пёркі*
*Ў росах котранскіх ізноў.*

### Позняя любоў

*Твая рука — сініцай на плячы.*
*Вось толькі я не князь,*
*Не годны рыцар.*
*Баюся паўтарыцца хоць у чым.*
*І нельга хоць у чым не паўтарыцца.*

*Нібы на здымку,*
*Крыху патрывай.*
*Не лепшы буду, можа,*
*І не рэдкі.*
*У рост дажджу павырасце трава,*
*І для цябе адной узыдуць кветкі.*

*Пытаннем з-пад зямлі*
*Ці з-за вугла,*
*Як снег на галаву,*
*Я паўтаруся.*
*Зіма да ног насыпала святла,*
*Бы назаўсёды,*
*Адлятаюць гусі.*

*Спяшаюцца дадому галубы.*
*З нябёсаў — позні,*
*З-пад Зяльвянкі — ранні...*
*Не ведалі з табой, што гэта быў*
*Апошні самы*
*Міг выратавання.*

*Мне б толькі паўтарыцца прад табой*
*Хоць позняй*
*Нерастрачанай любоўю.*

***

*Наіўны буду,*
*Аж пацешны.*
*А ні самоты, ні нуды.*
*Такія вірусныя вершы.*
*Каханне першае нібы.*

*Асцерагаюся пагляда,*
*Кантактных слоў і галасоў.*
*Непаслухмянай думкай падаў*
*Перад табою*
*Цень*
*Ізноў.*

*Якія б ні зманілі далі,*
*За думкай неслася зямля.*
*За ёю след у след траплялі,*
*Спачатку сонца,*
*Потым я.*

*Каб не канчаліся пацешкі*
*І каб паўсюль,*
*Як свет відзён,*
*Не сталі лозунгамі ўсмешкі*
*Мінулых дзён,*
*Крылатых дзён.*

### Памяць

*Хацелася ласкі і волі,*
*Пакуль за пагоркам зіма.*
*Не будзем пра сумнае болей,*
*А радасці лішняй няма.*

*Мы ходзім па вуліцах розных,*
*На рознае моўчкі глядзім.*
*Сягне бліскавічная розга —*
*Па небе пакоціцца дым.*

*Нібы дзеля памяці доўга*
*Клапоцімся, дбаем — жывём.*
*Застолле з яе і дарога,*
*Сусвет,*
*І забыты наш дом.*

*Бясконцыя ночы настануць,*
*Спахопіцца снежная рань.*
*І сцелецца сонейкам памяць,*
*Куды і калі ні паглянь.*

### Радзіма...

*Памінулі радасць, боль.*
*Іх будзе і не меней, і не болей.*
*Пазбаў і агню, і крыніцы,*
*Без голасу,*
*Песні пусці.*
*Тваім успамінам зрабіцца*
*Не дай,*
*Не хачу*
*Па жыцці.*

### Упершыню

*Якая па зямлі перасцярога*
*І дасканаласць ходзіць нездарма:*
*Жыць і не ведаць пра цябе нічога —*
*Ні голасу,*
*Ні твару,*
*Ні імя.*

*Але сустрэча,*
*Погляд выпадковы.*
*Пад незнаёмай зоркаю брылі.*
*На развітанне сказаныя словы*
*Нясуць у свет,*
*Нібыта два крылы.*

*Не хочаш і не здолееш вярнуцца*
*Ў сваю даўно забытую вясну.*
*Зайздросціш ветру, і дажджу, і птушцы.*
*Не нова.*
*А з табой — упершыню.*

### О, не...

*Хай Кніга Вечная закрыта,*
*Застаўся ў сэрца зрок і слых.*
*Не, не глядзі на свет адкрыта,*
*Дзе я спяшаю да тваіх*
*Акон, дзвярэй*
*І, як захочаш,*
*Да белых рук,*
*Да чорных воч.*
*Каб не ўраклі чужыя вочы,*
*Сама ваколле не суроч.*

*Яшчэ захочацца нам міру*
*На словы, вусны — на зямлю.*
*Не, не глядзі на свет так шчыра,*
*Дзе я кахаю і люблю.*

*Табе і мне,*
*Абодвум нам бы*
*Паўслова праўды Бог паслаў.*
*О, не зважай на свет прывабна*
*А ні пры мне,*
*А ні пасля.*


Фота openforest.org.ua

### Ты скажы

*Не абстаўлена слаўнымі нішамі,*
*Не ўзяліся альясы цвісці.*
*Не валодаю мовамі іншымі,*
*Мне хапае сваёй па жыцці.*
*А зямлю зацярушыць парошаю.*
*Ні вачэй, ні рукі, ні мяжы...*
*Ты скажы на ёй слова харошае,*
*Каб задыхаць,*
*Прагланунць*
*І жыць.*

### Птушка слова

*Не абарочвайся хаця*
*На гул авацый,*
*Ні на імя.*
*Хачу падгледжваць, як дзіця,*
*Паўсюль за думкамі тваімі.*

*Калі ж усцелюць шлях лісты,*
*Мне палазамі снежань скрыпне:*
*Дзе сонца ўсходзіць —*
*Там і ты,*
*Дзе ты —*
*Там споведзь першай скрыпкі.*

*Ласкавы гром, пяшчотны звер*
*Жыве ўва мне,*
*Жыве нанова.*
*Не абарочвайся цяпер,*
*Каб не спалохаць*
*Птушку слова.*

***

*Цвісці зіме лілеяй годзе.*
*Пялёсткі складвае яна.*
*Ты ж сонным скверыкам праходзіш —*
*І пачынаецца вясна.*

*За помнік шэры*
*Лёгкакрыла*
*Сплываеш ты*
*І за зіму.*
*Хаця б усмешку падарыла*
*Не мне,*
*То гораду майму.*

*І нездарма прайсціся быццам*
*Тут падабаецца самой.*
*Ідзеш, а ўслед, каб не згубіцца,*
*І я, і цень,*
*І горад мой.*

*Пайшла далей за вечар куцы,*
*Вачэй і сноў маіх апроч.*
*І нельга сонцу азірнуцца,*
*Каб не застаць тут на ноч.*

### Нараджэнне

*Крык жураўліны пад зоркаю чуцен,*
*Дзень па-над намі з лугоў устае.*
*Дзякуй за думкі твае,*
*За пачуцці,*
*Дзякуй за вершы твае*
*Для мяне.*

*Ты здагадацца не зможаш ніколі,*
*Як падбірала радок да радка,*
*Як спасцігаў я нядолю і волю.*
*Не памылілася б толькі рука.*

*Складні жыццё аднаму не па сіле.*
*Ты ратавала і гэтай вясной.*
*Літарка, літарка*
*Па небасхіле,*
*Нібы расінкі,*
*Адна да адной.*

*Міма праходзіла, я праз туманы*
*І праз стагоддзі цябе пазнаваў.*
*Сам не спатканы,*
*Табой не спазнаны,*
*Быццам у пушчы глухой сон-трава.*

*Кніжка выходзіла светлай такою*
*То пад куццю,*
*То да лета якраз.*
*І не паправіў сваёю рукою*
*А ні радка*
*Ні рэдактар,*
*Ні час.*



# Не называйце!..

Марыя БАРАВІК

## Вырваць зуб...

Зуба ж таго не відаць. Карэньчык. Дык баліць, нягоднік! Вырваць бы хутчэй — думаю! Пярэдні; нервы блізка... Ну, у Глыбокім жа замарозяць... Пайшлі ўспаміны пра «сямёрку», якую, незамерзлую, цягнула лекар тут, у Падсвіллі... Сёння ніхто не можа сказаць мне, як і калі працуе «зубнічка», то, кажуць: «Ёсць!», то — «Няма». Але і баюся... яна мне ў роце пустэльню пакінула — рэдкі зуб тырчыць, як баабаб... І ў памяці той зуб, які не замёрз за паўтары хвілінкі (казала, што па інструкцыі). І чалавек жа яна далікатны. Здарэнні не прадугледзіш.

Усхапілася я ў пяць трыццаць. Аўтобус у шэсць сорак? — трывожуся, каб не прапусціць.

Нумарок на прыём далі адразу. На дзевяць гадзін. Справа рухаецца добра. Ля дзвярэй кабінета няма народу. Мне яшчэ дваццаць хвілін чакаць. Але хірург выклікае: «Бабуся, захадзі!».

Азіраюся — дзе тут бабуся? Скеміла, што гэта я.

Ужо з крэсла прашу: «Замарозьце мацней!».

Тры ўколы. Адзін — нейкі закруцясты і балючы. Карэньчык на два ці тры міліметры паляцеў за два рыўкі. Прашу ў хірурга запасную «затычку» на рану.

— Няма ў нас! — кажа.

Ну, вядома ж няма. Сёння бедната і ў медыцыне.

Выйшла радасная, што мой зубны клопат добра скончыўся. На цягнік, думаю, пайду — няма ж куды падацца. Да адпраўлення рэйсавага аўтобуса чатыры гадзіны.

Недзе на паўшляху адчуваю, што не магу ўтрымацца — рот слінай напаўняецца, шчокі напружваюцца. Стала глытаць раз, другі, трэці... Як бы саланаватая. І ўжо не вытрымала. Цьху! Дык жа кроў, шуганула, вылілася, і выпаўзлі згусткі, як кісель.

Зразумеўшы, глянула ўперад. Вакзал відаць... Дык жа цяпер — назад трэба.

Ля «Роднага кута» малады чалавек на абгоне пытаецца: «Вам блага? Чым дапамагчы? Можа, «хуткую» выклікаць?» Ён жа бачыць, што я ў крыві. Я пра вырваны зуб мармычу, ад «хуткай» адмаўляюся. І ён аднолькава разумее, што яе наўрад дачакаемся.

Ідзем побач. Я паказваю, што дабягу; ён адказвае, што нельга спяшыць — ціск вырасце.

— Давайце, я таксі замоўлю — дадому вас давезці.

Я сяк-так тлумачу, што там, дома, апаратыўнай дапамогі не будзе, і кроў сцячэ. Да кабінета, у якім была, трэба дабрацца на ратунак. Спадзяюся на сябе, дзякую яму за шчыры ўдзел у маіх бядовых прыгодах.

— Не, я вас не кіну, буду з вамі.

Ідзем, і ён мне чаргова падае і падае зменныя вільготныя сурвэткі, а я запіхваю іх у рот. І гэта ўсё пасярод горада.

...У вестыбюлі стаматалогіі мой памагаты спадарожнік спыніўся высветліць, да каго звярнуцца па ратунак, і адтуль — у аптэку. Я — наверх у кабінет.

Безумоўна, уразіла медыкаў крывяной мурзатасцю. Яны зычна — не пускаць: «Куда вы с курткой на руке, бабуся? Павесце в гардеробе. Посмотрите в зеркало, какой у вас вид! Умойтесь! Маску поменяйте!». А я ім: «З мяне ж кроў льецца... даўно. Я ж не вінавата. А дзе люстэрка?

— Да внизу же!

Добра помню, што люстэрка там няма. Дык жа, як бегла, туалет быў замкнуты знутры — там нехта... А ў гардэробе як — да люстэрка? Напужала б народ выглядам. І дзе вада? Гэта і кажу: «Не крычыце на мяне. Я ж вас не вінавачу, вы выдатны хірург... Але ж чаму кроў льецца з зубной ячэйкі? Як яе спыніць? І... я не «бабуся». Я... член Саюза пісьменнікаў...». І заўважаю люстэрка і ўмывальнік...

— Здесь нельзя!

За дзвярыма скеміла і нырнула ў персанальны туалет. Там хуценька набрала поўны рот вады... Не памятаю цяпер, ці было там люстэрка.

Мой малады чалавек прынёс пакет. «Тут вот необходимое: вата, что ещё?..»

— Вату нельзя, надо стерильный бинт — кажа хірург.

А я згадала, колькі сёння нестэрыльных вільготных сурвэтак пабывала ў маім роце.

— Ну и ничего, всё нормально в ячейке, и кровь же не идёт... Вы дома разжижающее наверно пили сегодня?

— Не! — кажу.

— Давление нагнали наверно.

Сталі мерыць.

— Ну вот — сто семьдесят!... Потому и кровь.

Праважаты мой зноў прынёс дзве маскі, паклаў на стол і выйшаў.

— Добрый человек вам попался, павезло, — заўважыла хірург.

Чаму такое здзіўленне, думаю, што чалавек дапамог. Няўжо мы ўсе павінны быць нейкімі нядобрымі?


Фота vip-line.com

## Не дамся!

Сёлета, у свой юбілейны Дзень нараджэння, я напісала:

*Ты лічбамі гадоў не забаўляйся.*
*Хай абляцелі лістам пад платы —*
*Зара адкрыццяў толькі занялася.*
*Бяру з яе іскрынку ў лірматыў.*
*Сучасная! І плыткая рака я.*
*Мінулага блікуюць толькі сны.*
*А гэта значыць — сонца выяўляю*
*І ўсім дару свой голас ад вясны.*

Вясны прабуджэння маіх спелых думак, сапраўдных вобразаў, квецені ў паэзіі. Хіба юнай я магла ведаць тое, што ведаю цяпер? Дык прыміце, добрыя людзі, маё светабачанне, беражыце паэтэсу ўва мне, якая расце адкрыццямі. Дык не ганіце вясну назіранняў у восень маю — я расту цяпер. Дух, душа так адчувае. Не хвалюйце цела, у якім — душа! Яна працягвае любіць белы свет.

Для ўсмешкі хачу зберагчы зубы. Для ўдумлівай усмешкі чытача даю сёння волю пяру — паразважаць, чаму і як я адчуваю прыніжэнне маёй любові да жыцця. Мне так і хочацца сказаць: «Адкуль вы ведаеце, колькі я пражыву? Можа, гэта мой сярэдні ўзрост?».

Калі б у нас была сапраўды незалежная дзяржава — была б карэнная беларуская мова дзяржаўнай. Быў бы замацаваны зварот да чалавека: «Спадар, спадарыня». Не савецкае: «таварыш», якое (дзякуй) рэдка чуем. Ды й — раскол. І чалавек чалавеку — не таварыш. Хутчэй — падазрэнне... Затое працягваецца суцэльнае бескультур'е: «Гэй ты, дзед, дзядуля, бабуля, бабуся», «дзевушка», «жэншчына», «мужчына», «мужык»!

Як родавае, сказанае ласкава ўнукам: «дзядуся, бабуся», яно прыемнае. Але не агульназваротнае да чалавека. Асабліва, калі гучыць ад доктара. Ой як падкрэсліваецца старасць! Нямогласць. Маўляў, ты ўжо нікчэмны: глухі, сляпы, бяспамятны — словам, з'ехаўшы з глузду. Намёк: пара ўжо... Што з табой вазіцца? І, калі павышаюць голас, каб ён табе ў вушы трапляў, ты, пацыент, слухай стук сэрца...

Зірнуўшы ў лячэбную карту, табе крычаць, нібы глухой: «Бабушка! Садись в кресло! Бабушка, не так галаву ложишь!».

Адкрыццё я атрымала пры кавідзе — праўда, ціхае і далікатнае: фельдшар не думала пра маё імя, усё адбывалася імкліва. Прывезлі на рэнтген. Дык я не падазравала, што я — «бабушка», бо нават унукаў не маю. Пазней запісала:

*Як «хуткая» рванула ад парога*
*І роўна на Глыбокае наўпрост,*
*Даў Бог, што зляла фарбамі дарога*
*І восеньскі яе пярэсты хвост.*
*«На снимок — бабушку», —*
*так адкрыццёва чую...*
*Ах, ратавальніца! Зязюлька ты мая!*
*За «бабушку» я, так і быць, дарую.*
*Але не «бабушка» я! — Песня салаўя»...*

Не прымаю абыякавасці ад тых, хто прамаўляе: «А хай завуць хоць гаршком, абы ў печ не ставілі».

Не дамся!..


Фота kp40.ru

## Наказ наступнікам

Дома — хутчэй да люстэрка!... А гэта яшчэ што за пляма сіне-чырвоная!? Можа, не адмылася? Дык жа — гематома. І балючы ўкол успомніла. Мусіць, сасуд які зачэплены?.. Ці тая пракладачка не прылягла да ячэйкі? Чаму кроў фантаніла?

А можа, думаю, настрой мне падарваў зварот з кабінета: «Захадзі! Бабуся!»? І я не пасядзела ў вестыбюле хвілін 20 пасля выдалення зуба — адразу пачасала на цягнік? Каб хутчэй (не праз пяць гадзін) вярнуцца дамоў і паглядзецца ў паэтычнае люстэрка, ці «бабуся» я?..

Уражанне ад сябе, ад сцёклай крыві, ад клопатаў добрага, разумнага маладога чалавека за маё жыццё, ад нейкага майго канфуза, што апынулася прынародна ў такім бядовым стане, не пакідае пяты дзень. Як і сіняк (ад левага куточка рота, загнуты пад бараду, да цэнтра яе, у выглядзе паўмесяца). Я ж тады не заўважыла. Можа, не была яшчэ пара яму з'явіцца? Барада ж замарожаная. Пухліна спадае, але сківаца і гняздо зубное ные, садніць. Палашчу (з хатняй аптэкі) змешаным растворам эўкаліпта, календулы, прапаліса. Ды й «Чорны рыцар» калінікалі прымяняю...

У мясцовую аптэку схадзіла ў наступны дзень. На дзвярох надпіс: «Все ушли на фронт...». Галавой паківала, акуляры паправіла, і ў паперцы праявілася: «Сотрудники больны».

Сёння даведалася, што там нічога таго няма, што мне трэба. Толькі стэрыльны бінт (шырокі). Ну дык купіла. І задумала гэтае эсэ, каб папярэдзіць сяброў у выпадку з зубам... Трэба помніць, што ў зубны хірургічны кабінет без аптэчнага «арсенала» не заходзіць. Неабходна ў першую чаргу мець бінты, стэрыльныя... Ну і ваду на ўсякі выпадак — адмывацца. І люстэрка!

# Раздзяўбуць нас крумкачы, вароны…


Стэфан ЖАРОМСКІ

***Стэфан Жаромскі (1864—1925) — адзін з неаспрэчных класікаў польскай літаратуры эпохі Маладой Польшчы, сын Вінцэнта Жаромскага, які актыўна падтрымліваў паўстанцаў 1863—1864 гадоў у Свентакшыскім ваяводстве. Пісьменнік выказваўся супраць дыскрымінацыі і ўціску беларусаў у Заходняй Беларусі ў міжваенныя гады. Тэма паўстання стала адной з найважнейшых у яго творчасці.***

Ніводзін з порсткіх сонечных промняў так і не здолеў прабіцца скрозь паводку хмар, гнаных парывамі ветру. Употай раздзівалася няшчодрае святло раніцы, толькі падкрэсліваючы раўніннасць краявіду, вялікія памеры гэтай пусткі. Няспынна сыпаў дождж — дробны, як крупы. Вецер падхопліваў кроплі ў палёце, нёс іх наўскос і шпурляў вобзем.

Панылая восень ужо дыхала холадам, нішчачы ўсё, што яшчэ заставалася, жывое ў траве ды пустазеллі. Счарнелыя вербы, з якіх абляцела лісце, тужліва шумелі, прыгінаючы галіны да самай зямлі. Бульбяныя палеткі, пожні і — асабліва — нядаўна ўзараныя і засеяныя ралді раскіслі і ператварыліся ў гразкія балоты. Бурыя аблокі, патрапаныя і ўскалмачаныя, імчалі над самаю паверхняю палёў — змярцвелых і адхвастаных дажджамі.

Якраз на самым досвітку Анджэй Барыцкі (больш вядомы пад прыдуманым імем Шымон Вінрых) выязджаў з-за райгурскіх узгоркаў, скіроўваючыся да Насельска, на шырокія раўніны. Выбраўшыся з зараснікаў, ён трымаў свой шлях, арыентуючыся па следзе пешай палявой сцяжыны, а калі яна цалкам знікла з яго вачэй у вялікіх лужынах — ён рушыў наўпрост, упоперак загонаў.

Праміналі ўжо дзве начы, як ён не спаў, а калі надышоў трэці дзень, ён па-ранейшаму ішоў ды ішоў каля свайго воза. Ад вадкай гразі яго чаравікі стапталіся гэтак па-майстэрску, што іх падэшвы йшлі як бы асобна ад босых ступакоў. Ён прамок да ніткі й прамерз да касцей. Хто б цяпер прызнаў у гэтым абадранцу былога старшыню самай вясёлай пад месяцам братчыны, так званых «шрубстакоў»[1] — таго самага Ендрака, караля і падышаха варшаўскіх сірэнак? У яго ладна адраслі валасы, якія цяпер нагадвалі арлінае пёры, а пазногці былі больш падобныя да звярыных кіпцяў; ён хадзіў у прапахлай потам сярмязе, прагна паядаў скваркі з чорным хлебам з мякінаю і папросту жлукціў гарэлку, нібы гэта была якая-небудзь содавая з парэчкавым сокам.

Коні яго былі галоднымі й гэткімі загнанымі, што раз-пораз спыняліся ад знямогі. Нічога дзіўнага: колы грузлі па самыя восі, а на драбінах воза, пад ахапкамі альховага галля, сена і саломы адных карабінаў ляжала шэсцьдзясят штук і дзесяткі паўтара палашоў, акрамя рознай-іншай зброі. Самі ж коні зусім былі не лядашчыя: рослыя, згрaбна-сухарлявыя, хай сабе і крыху схуднелыя, затое выдатнай цяглавай пароды. Ды такія, што папросту маглі прайсці хоць дзесяць міляў за суткі, каб толькі даць ім перадыхнуць пару разоў ды папасвіцца. Належалі тыя коні аднаму шляхцюку з наваколляў Млавы. Яны складалі істотную частку яго багацця, бо summa summarum[2] у яго было толькі трое коней, аднак уласнік усё адно пазычаў іх Вінрыху на першае запатрабаванне. Апошні заяўляўся, зазвычай, позна ноччу і стукаў у вокны — потым удвух з гаспадаром ціхенька выводзілі коней, каб не пабудзіць парабка, выганялі калёсы — і наперад! Улетку з яздою было лягчэй. Днямі Вінрых спаў у лясных нетрах, а коні тым часам пасвіліся. Цяпер жа ані спаць, ані рабіць прывалы не было як. Вінрых разлічваў, што яму хто-небудзь зробіць палёгку, пагатоў самыя цяжкія ўчасткі і перашкоды ён ужо ўдала абмінуў. Але часы памяняліся… І калі ўжо хто і застаўся дагэтуль ваяваць на гэтай зямлі — ваяваць у поўным сэнсе гэтага слова, — то гэта быў ён, Вінрых. Ён адзін усё яшчэ падвозіў зброю; ён адзін не занепадаў духам. Калі б не Вінрых, то разляцелася б на ўсе чатыры бакі і сама партыя[3]. Гэтулькі часу мінулася, а ён, як і раней, падтрымліваў і падганяў сваіх аднадумцаў, нібы розгаю, сваімі хвосткімі, адрывістымі словамі, — гэтых гнаных і галодных, змерзлых і перапалоханых людзей. Цяпер, калі ўсё адышло ў бяздонную прорву смуты, ён, як хадзілі чуткі, адно раз'юшыўся. У той час, як філасофскі прынцып fratres! rapiamus, capiamus, fugiamusque[4] гэтак бесцырымонна і назойліва ўкараняўся не толькі ў душах і сумленні людзей, але і ў сам падмурак гэтак званай рэвалюцыйнай палітыкі, — ён адчуваў у сабе нейкую ўсё больш дзёрзкую, жахліва балючую, мала што не вар'яцкую ўпартасць…

Калі ён, змоклы, галодны й да знямогі змораны, тупаў побач з возам, разам з холадам у яго нібыта прабіралася і само адчуванне галечы. І ні крошкі хлебнай у кішэні не заставалася ані крошкі хлеба, у бутэльцы — ні кроплі гарэлкі. Дзіравыя, дарэшты зношаныя чаравікі ўсё ж не былі для яго важкаю прычынаю, каб паддавацца роспачы той скрайняй галечы. Як, гэтаксама, не былі й голад з холадам. Але за Вінрыхам па яго слядах, пакінутых ім у гразі дзіравымі чаравікамі, ішла тая іронія назіранняў — тая страшэнная бяда, якая ніколі не завагаецца ўварвацца ў найсвяцейшае месца; тая, што нахабна, як гнюсныя зладзеяватыя ліхвяр, выхопліваe неацэнныя скарбы чалавечага духу ды пасміхаецца з іх годнасці, убіраючы сваю ганебнасць у самыя што ні ёсць лагічныя сілагізмы.

— Усё прамантачылі, — шэпча Вінрых, пасвістваючы, — усё прайгралі да апошняй ніткі, а нават і да апошняга вольнага ўздыху. Цяпер досыць аднаго толькі страху з вялікімі вачыма ды ўздыбленымі на галаве валасамі, каб тут жа павылазілі са сваіх мышыных нор усялякія метафізікі-рэакцыянеры і пракоі цемрашальства. Тое, чаго раней не наважваліся адно аднаму на вуха казаць, зараз будуць апяваць у гекзаметрах. Колькі ў чалавеку ёсць ад бандыта і здрадніка, гэтулькі з яго і выцягнуць на ўсеагульны агляд і пакажуць як прыклад для ўшанавання і перайманння. Падумаць толькі, — гэта ж самыя сапраўдныя падмены паніцтваў, якія, пры тым, мы самі сабе ж і навязалі, — і ўсё таму, што прайгралі…

Ён яшчэ мацней зацягнуў свой пояс з воўны, захінуў грудзі сярмягаю і рушыў далей, павесіўшы галаву. Але, між іншым, усё ж уздымаў яе, каб працадзіць скрозь зубы:

— Сабакі паршывыя!

Хвосткі дождж аціх, але імжа так і не знікала, засціламочы вочы непразрыстаю заслонаю вадзяных пылінак. Парывы ветру бушавалі вакол воза, свісталі ў спіцах, раздзімалі доўгія палі сярмягі і церабілі кашулю.

За сцяною туману неразборліва відаць быў невядомы аднастайны рух, паралельны ледзь відочнаму далягляду. Мажліва, тое шэраг калёсаў, статак скаціны, або… войскі.

Вінрых, прыжмурыўшыся, нейкую хвіліну прыглядаўся да таго руху. Раптам ён адчуў, як у грудзі яго нібыта засунулі загнуты кручком палец, а потым выдралі нейкую крывяносную жылу.

— Маскалі… — прашаптаў ён.

Даўшы коням моцнай пугі, ён нацягнуў павады, развярнуўся амаль на роўным месцы і пачаў уцёкі. Ён не хацеў, а дакладней, не мог нават павярнуць галаву, каб лепей агледзецца і распазнаць, што там рабілася ў яго за спіною. Яму здавалася, што ён вось-вось здолее адскочыць убок, сысці незаўважаным. Але, як на тое ліха, месца, дзе ён знаходзіўся, было голым і бязлюдным у наваколлі некалькіх вёрстаў.

І неўзабаве калёсы, якія ўцякалі, былі заўважаныя. Ад шарэнгаў войска, што ішло полем, адарвалася група вершнікаў, памкнулася наперад і панеслася на ўсю моц. Вінрых, цяпер ужо пільна сочачы за ўсімі гэтымі дзіўнымі манеўрамі, аніяк не мог дапяць, — ці да яго гэта яны скачуць, або наадварот, — аддаляюцца ў працілеглы бок. Ён даў рады зарыентавацца, толькі калі разгледзеў конскія пысы ды сцяжкі на скіраваных да зямлі піках. У той хвілі яму падалося, што кроў яго нібы загусла, ледзьве не спыніўшы свой рух па венах… Ён спыніў коней, абкруціў палатнянымі лейцамі жэрдкі драбінаў і пачаў думаць, чым жа яму абараніцца: палашом або незараджаным карабінам?

Але, перш чым штосьці рабіць, ён машынальна падышоў да змардаваных коней і пачаў здымаць з аднаго з іх аброць ды сцягваць хамут, нібы дзеля таго, каб выпусціць на волю сваіх таварышаў у нядолі. Робячы гэта, ён на хвіліну прыціснуўся да конскай шыі ды ўздыхнуў.

Восем расійскіх уланаў на прыгожых конях нагналі воз ды імгненна абкружылі яго з усіх бакоў. Адзін з іх, не кажучы ні слова, пачаў скідаць дзідаю сухія галіны й снапы саломы, прамацваючы змесціва глыбіні павозкі.

Калі аканечнік пікі бразнуў, наткнуўшыся на ствалы карабінаў, салдат паляпаў Вінрыха па плячы і падміргнуў сваім таварышам. Тыя ўхапіліся за свае карабіны, закінутыя за спіны. Гаспадар воза не скрануўся з месца, па-ранейшаму абдымаючы каня. Вінрыхаў рот перакрывіўся ад агіды, а ў сэрцы яго згусцілася не адвага, а пагарда, — бязмежная пагарда да ўсяго, што ёсць на гэтай зямлі.

— Ты гэта для якой партыі вёз? — спытаў той, хто абшукваў.

— Дурань! — адказаў Вінрых, не ўздымаючы галавы.

— Для якой партыі, кажу, вёз? Слышь, полячишко!

— Дурань!

— Гэта не селянін, — звярнуўся да падначаленых старэйшы: на плячы ў яго віднелася нашыўка, — гэта паўстанец.

— Дурань! — прамовіў Вінрых, гледзячы долу.

— Хапай сукінага сына! — заверашчаў служака.

Двое вершнікаў тут жа адскочылі на некалькі дзесяткаў крокаў ды імклівым рухам выставілі пікі старчаком. Асуджаны зірнуў на іх, калі тыя падрыхтаваліся ўжо астрогамі пагнаць коней, і, як тое малое дзіця, захінаючы галаву рукамі, ціхім, нейкім не ўласцівым яму голасам, вымавіў:

— Не забівайце мяне…

Але ўланы ўжо сарваліся з месца і ў адзіным наскоку праткнулі яго. Адзін з іх брыдка распаласаваў паўстанцу жывот, а другі праламаў грудную клетку. Трэці ўлан ад'ехаў на дзесяткі паўтара крокаў і, калі першыя двое, выцягнуўшы пікі й плюнуўшы, адышлі ўбок, прыцэліўся асуджанаму ў галаву. Ён націснуў на курок якраз у той хвілі, калі цела няшчаснага ссунулася ў каляіну. Яшчэ адна куля, прашыўшы чэрап першага каня, які трапіўся пад руку, забіла яго на месцы. Жывёліна прастагнала і, нежывая, павалілася ў ногі Анджэю, які канаў. Салдаты тут жа спешыліся і абшукалі пустыя кішэні паўстанцавай сярмягі. Угневаныя тым, што Вінрых выпіў усю гарэлку, яны разбілі аб ягоную галаву пустую бутэльку і разарвалі яму астрогамі шчокі. Потым, калі прагучаў сігнал, што заклікаў іх вярнуцца ў шыхт, яны паўскоквалі ў сёдлы — не забыўшыся пры гэтым прыхапіць з возу колькі дыхтоўных бельгійскіх палашоў, ды рушылі ўслед за сваім атрадам, які ўжо амаль быў схаваўся ў імгле, за заслонаю дажджу. Камандзір эскадрона гнаўся за нейкім дробным, практычна зніклым атрадам паўстанцаў, таму ў яго не было часу разбірацца са зброяю, пакінутай у полі, на Вінрыхавых калёсах. Тут зноўку шуганула зліва, якая на хвілю змусіла паўстанца апрытомнець.

Павекі яго, заплюшчаныя ад болю ды перадсмяротнай агоніі, з цяжкасцю трохі расплюшчыліся, каб апошні раз паглядзець на аблокі. Вусны дрыжалі, намагаючыся выгаварыць хмаркам, што праносіліся ў яго над галавою, сваю апошнюю думку:

«…І адпусці нам грахі нашыя, як і мы адпускаем вінаватым нашым…».

Паўстанцам, якія даходзілі, дарэшты авалодала магутная надзея на неўміручасць, якая здавалася яму бясконцаю прасторaю.

З гэтаю надзеяю ў душы ён і сканаў.

Галава яго ўціснулася ў адну з брудных упадзін, у якую, няспынна паглыбляючы лужыну, пачыналі збягацца дробныя раўчукі. Дажджавыя кроплі, спадаючы ў яе, уздымалі на паверхню буйныя, разадзьмутыя бурбалкі, якія лопаліся гэтак жа хутка, як лопаюцца святыя чалавечыя ілюзіі. Забіты конь хутка астыў, а ацалелы рваўся ў вупражы з гэткім надрывам, быццам яго нехта сцябаў пугаю. Потым ён раптам перагнуўся цераз дышаль, цераз мёртвага свайго таварыша і абнюхаў галаву Вінрыха. І як толькі конь пачуў пах трупа, як вочы яго наліліся крывёю, грыва апантана ўздыбілася, ён памкнуўся назад, потым рушыў усім корпусам наперад, пачаў біць капытамі па зямлі, і да таго люта пачаў тузацца ва ўсе бакі, што задняя яго нага трапіла ў спіцы пярэдняга кола воза. Тады ён тузануў захраслаю канцавінаю з усяе сілы і жахліва пераламаў яе вышэй ад сустава. Боль увагнаў каня ў яшчэ большае шаленства. Ён у гневе пачаў выбівацца з палону шалёнымі скачкамі. Костка пераламілася напалову гэткім чынам, што яе завостраны кавалак, нібы лязо нажа, пратыкнуў шкуру, і чым мацней конь кідаўся, тым глыбей яе разразаў…

Пагода ўсталявалася толькі назаўтра, але вецер па-ранейшаму не сціхаў. Высока ляцелі аблокі, ахінутыя глыбокімі ценямі мудрагелістых формаў. Супраць ветру, як бы насустрач аблокам, пацягнуліся — дзе зграямі, дзе паасобку — крумкачы. Сустрэчныя струмені паветра зносілі птушак і адштурхоўвалі назад, калі-нікалі забаўна заломваючы ім дагары крылы, а часам і прыціскаючы іх целы, нібы каменем, да зямлі. Неўзабаве яны закружылі над мярцвячынай, імкліва зляталючыся ўніз пасля доўгай барацьбы з назойлівымі вятрамі, — сядалі на далёкіх градах.

Конь, усё яшчэ жывы, стаяў са зламанаю нагою, якая захрасла паміж спіцамі. Ён ужо не спрабаваў яе выцягнуць: баяўся вострага болю. Аголеная костка пры любым руху чаплялася за дрэва і рэзала шкуру.

Але ледзь убачыўшы крумкача, ён паволі крокамі адступіў да драбінаў, з цяжкасцю пераступаючы з нагі на нагу, і загігатаў.

Ён спадзяваўся, што на яго спокліч збягуцца мясцовыя людзі; спадзяваўся на племя людское:

— О людзі подлыя, о род заганны, о племя забойцаў!

Заканчэнне на стар. 11 »

[1] Даслоўна: ціскі (з нямецк. Schraubstock).
[2] Агулам, усяго разам (лац.).
[3] Тут маецца на ўвазе паўстанчы атрад.
[4] Браты! Хапайма, забірайма, уцякайма! (лац.).

# Канструкцыя душы



Казімеж БУРНАТ

***Казімеж Бурнат — польскі паэт, эсэіст, перакладчык, рэдактар, публіцыст, журналіст, літаратуразнавец, культурны і грамадскі дзяяч. Нарадзіўся ў 1943 годзе ў Шчапанавіцах, што на рацэ Дунаец. Аўтар дваццаці адной кнігі паэзіі, шматлікіх перакладаў з чэшскай, украінскай і венгерскай моў. Выкладчык літаратурных майстэрняў, лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій і ўзнагарод. На працягу многіх гадоў з'яўляецца арганізатарам Міжнароднага паэтычнага фестывалю «Паэты без межаў» («Poeci bez granic») у Паляніцы Здруй.***

***

*Гадзіны*
*як кроплі дажджу*
*вымываюць з цябе найлепшае*

*на рэнтгенаўскай выяве*
*штораз менее дэталяў*
*апошнімі порцыямі ценяў*
*брыняе змрок*

*некранутая канструкцыя душы*
*узбагачаная слядамі мітусні*
*пабляклага цела*
*прышвартуецца да ўзбярэжжа*

*з глыбінных пластоў*
*урэчаісніцца вечнасць*
*маўчаннем*

*гадзіны як кроплі дажджу*
*не ўсведамляючы свайго часу*
*накладаюцца адна на адну*

*вынішчаюць секунды*

### Пераўтварэнне

*Гукі заглушаныя вільгаццю*
*цьмянеюць*
*дождж распырсквае*
*людскія гісторыі*
*ручаі злізваюць з асфальту*
*цукеркавыя сукенкі*

*вочы ў віскозных швэдарах*
*не прабіваюцца*
*праз шчыльны кажух*
*да засушлівага зместу*

*то нічога*
*зрэшты змерзлы акрыяе*

*праз смерць*
*да любові*

### Без слоў

*Усутыч*
*поруч з неабуджаным днём*
*сягаюць у стылы прасцяг*
*крыштальнага бляску*

*глыбокі ўздых*
*дотык вуснаў*
*гарачым дыханнем*

*эфемерныя хвілі*
*як прысаромленасць на світанні*
*аднак глытком паветра для сэрца*
*для душы ж*
*загадкавай песняй імпэту*

### Утрапенне

*Невагомая музыка*
*вярбовых жалеек*
*ліецца плынню*

*павяртаю яе*
*да крыніцы*
*з дрыготкага люстэрка*
*выхопліваю вейкамі*
*зашклёных слёзамі вачэй*
*і лічу патопленыя зоркі*

*мелодыя сягае ў вір*
*у глыбіню*
*акрыляе*

*успаміны адшукаюць*
*свежы водар вікі*
*уплецены ў жытнёвы букет*

### Жар змяркання

*Лямант самоты*
*боль фіялетавага святла*

*кім ты мог быць*
*але не ёсць*
*разуменне сэнсу неспатоленасці*
*пазбавіла цябе голаду*

*пясчаныя віры*
*на ачужэлых целу*
*лагчынах шнараў*

*перад табой мора*
*плёскат вады*
*у высахлай студні*

*яшчэ ліпіш*
*каб дабрадзейнасцю сціплай*
*супыніць душу*
*на дне начы*

### Будучыня

*тым хто жыве*

*Затаварышую з цішай*
*і нерушам*
*утаймую свядомасць*
*прыпаркамі з роднай зямлі*

*неўзабаве працяты каранямі*
*ушанаваны валуном*
*начычаны ўнутраным зместам*
*буду сачыць за ценямі*
*жывых постацяў*
*(не толькі чалавечых)*

*калі святло памяці згасне*
*адухоўлена запытаю*
*як наконт абяцанай вечнасці*

*ці адкажа мне хтось —*

*на струнах вершалін*
*вятрыска*
*зайграе тужлівую мелодыю*
*а праз суtву камлёў*
*адліецца прах*
*у бурштынавы амулет*

***Пераклаў з польскай Янка ЛАЙКОЎ***

# Раздзяўбуць нас крумкачы, вароны…

**« Заканчэнне. Пачатак на стар. 10**

Гэты лямант запоўніў пустэльнае наваколле і згубіўся ў шалёным скавытанні ветру, затрымаўшы толькі на якую хвілю набліжэнне трупаедаў. Абачлівія і тактоўна, у нечым нават дыпламатычна і цярпліва, вароны набліжаліся да ахвяры, круцячы галовамі й уважліва сочачы за сітуацыяй. Але асаблівa вызначылася адна — відаць, самая энергічная, — якая больш за ўсё прагнула сваёй узнагароды й падавалася найбольш брутальнаю сярод усіх. Зрэшты, магчыма, гэта было толькі палкім выразам важнасці інтарэсаў сваёй дзюбы й страўніка ці, як мы прывыклі казаць, адвагі (тое, што «даўней было парадоксам, з гэтага часу стала аксіёмаю…»). Яна дашыбавала да ноздраў забітага каня, з якіх яшчэ сачылася кроў, што не да канца запяклася і зацягнулася рудаватаю плеўкаю. Сваімі порсткімі пранклівымі вочкамі яна адразу заўважыла тое, што ёй належыць. Не задумваючыся, яна ўскочыла на морду забітага канякі, задрала ўгору галоўку, расставіла ногі, як гэта робіць лесаруб, які рыхтуецца да таго, каб сячы дрэва; скіравала дзюбу перпендыкулярна да мёртвага вока і, нібы жалезняком, з размаху стукнула ў яго. За прыкладам адважнай вароны рушылі ўслед яе сяброўкі. Адна разбірала рабрыну, другая — шчыкала нагу, яшчэ адна калупалася ў ране на чэрапе. Але больш за ўсё вызначылася гэтая (якая прэтэндавала на тытул «гэтае меры») — ёй закарцела дабрацца аж да мозгу, — прыстанішча вольнай думкі — і зжэрці яго цалкам. Яна велічна ўзышла на нагу Вінрыха, прайшлася па ягоным целе, паспяхова дабралася да галавы й узялася з энтузіязмам прабівацца скрозь чэрап — апошнюю цытадэль польскага паўстання.

Аднак перш чым яна паспела пакаштаваць яго бунтаўніцкага мозга ды апраўдаць свой т. зв. слаўны тытул, яе нечакана перапалохаў нейкі новапрыбылы чужынец, — ён неўзаметку набліжаўся, прыгнуўшыся, нібы вялікі шэры драпежнік. Не, гэта зусім быў не шакал (што было б вельмі паэтычна) — адно толькі галетнік, селянін з найбліжэйшай вёскі. Проста на ўчастку, які яму быў аддадзены ў бестэрміновае карыстанне, апынуліся трупы — вось ён і прыйшоў іх прыбраць.

Мужык моцна баяўся маскалёў, таму поўз туды ледзьве не на карачках. У той жа час яго спапяляла прага нарэзаць сабе рамянёў і ўзбуджала салодкая надзея разжыцца чым-небудзь яшчэ, хоць бы й пасля ўланаўскай люстрацыі: жалезнага лому, тоўстых вяровак і вопраткі з трупа. Урэшце, ён стаў на ногі, уздымаючыся над парэшткамі Вінрыха, пакруціў галавою і ўздыхнуў, — потым укленчыў на зямлі, зняў кепурку, перажагнаўся і гучна прагаварыў малітву.

Вымавіўшы апошні «амін» — цяпер ужо з прагавітым бляскам увачу, — селянін перш за ўсё кінуўся мацаць па кішэнях і запазухай у загінулага: шукаў кашалёк. Але нічога там не знайшоў. Таму ён садраў з трупа сярмягу, палатняныя лахманы, зняў чаравікі, сцягнуў нават брудныя анучы, абкруціў усім гэтым рыззём частку вайсковага арсенала і паспешліва адышоў. А вярнуўся ўжо праз нейкую гадзіну: прыхапіць трафеі, якія засталіся. І толькі потым — каля апоўдня, — прыгнаўшы пару коней, нарэшце распрог пакалечанага каня. Уважліва агледзеўшы яго паламаную нагу, селянін прыйшоў да высновы, што яна безнадзейна пашкоджаная. Трэба было задушыць бескарысную жывёліну. Ён, не марудзячы, накінуў яму на шыю вяроўку, прывязаў да вагі, што валачылася за яго канямі, плюнуў у далонь ды пагнаў скакуноў на ўсю моц. Коні рэзка тузануліся — зашмарга сціснула горла смяротніку ды паваліла яго на зямлю. Імгненна moriturus[5] падскочыў на ногі ды памчаўся наўзгалоп услед за параю, што цягнула яго, тыцкаючыся вастрыём вялікай галёнкавай косткі па гразі й камянях.

Селянін ажно зажмурыўся ад агіды, назіраючы за гэтым відовішчам. Ён тут жа адвязаў вяроўку і спыніў экзекуцыю. Трохі счакаўшы, запрог коней у калёсы і сышоў. А з'явіўся зноў ужо ажно папоўдні, узброены сцізорыкам, каб садраць з каня, застрэленага ўланамі, шкуру. І калі тая была шчасна абадраная, урэшце, надышла чарга і яшчэ жывога каня. Вось тут мужык і задумаўся, мяркуючы, як бы яму гэта спраўней зрабіць, пачаўшы перабіраць розныя варыянты. Ён мог бы, вядома, проста закалоць скацінку і ўсё абладзіць адным узмахам, але яму не хацелася «пэцкацца» — ані маральна, ані фізічна. З іншага боку, селянін пабойваўся, што ноччу хто-небудзь падкрадзецца ды і прыб'е каняку, а потым і шкуру здзярэ. І ўрэшце, вагаючыся, прамовіў да няшчаснай жывёліны:

— А падыхай жа ты яшчэ тут… Ці так, ці гэтак да раніцы капыты адкінеш. Напрацаваўся я, умарыўся. Езус міласэрны дабраславіў мяне… А раптам ніхто нічога так і не бачыў — можа, і не прыйдуць яшчэ па тваю шкуру. І на тым дзякуй. Падыхай жа ты пакуль тут, бедненькі, падыхай…

Трохі ўбаку, у тым кірунку, куды некалі праставаў Вінрых, былі нізіны, засаджаныя бульбаю. Калі выявілася, што глеба прапускае ваду, трапляючы ў абшарніцкія зімовыя падвалы, апошнія перанеслі ў іншае месца, а пакінутыя ямы пазарасталі пустазеллем. На дне і на сценах колішніх падвалаў забуяў кустоўем барбарыс. Бэлькі, што ўмацоўвалі сцены, паабвальваліся і, перамяшаўшыся з камякамі гліны, ператтварылі ранейшыя склепы-падвалы ў пячоры ды катакомбы, запоўненыя вадкаю гразёю. Пад вечар у адну з такіх дзірак селянін зацягнуў труп паўстанца і рэшткі каня без шкуры. Ён уціснуў іх абодвух у нейкую пячорку, потым сцягнуў іх целы пры дапамозе жэрдкі ў адтуліну паміж бэлькамі і пустазеллем, а зверху накідаў крыху гліны, каб крумкачы не здолелі дабрацца да жаданага «корму».

Так ён і пайшоў дадому — з голаю галавою і з малітваю на вуснах, — неўсвядомлена і міжволі адпомсціўшы за адвечную няволю, за пашыранае невуцтва, за эксплуатацыю, за ганьбу ды пакуты людзей. Незвычайная і кранальная ўцеха сышла на яго душу і размалявала цэлы далягляд, увесь яго розум, усю зямлю надзіва прыгожымі фарбамі. І ад усёй душы, недзе глыбока ўнутры, славіў ён Бога за тое, што той, у бязмежнай міласэрнасці сваёй, паслаў яму столькі жалезнага лому ды рамянёў…

Аж раптам, у мёртвай цішы восеньскага змроку, пракаціўшыся над самаю зямлёю, да яго данеслася адчайнае конскае гігатанне. Селянін спыніўся, захінуў далонню, як брылькам, вочы ад сляпучага святла, і пачаў углядацца ў той бок, дзе заходзіла сонца.

На фоне ліловага заходу быў відаць конь, які абапіраўся на пярэдні ногі. Ён матляў галавою, паварочваў яе ўбок Вінрыхавай магілы й гігатаў.

Над канём, над гэтым жывым трупам, махаючы крыламі, узлятаючы і апускаючыся, кружлялі зграі варання. Вечаровая зара імкліва згасала. З іншага боку свету надыходзілі ноч, гора ды смерць.

***Пераклаў з польскай***
***Лявон БАРШЧЭЎСКІ***

[5] Той, хто мусіць сканаць (лац.).

## Лейпцыгскі кніжны кірмаш

Сёлета гэты легендарны кніжны кірмаш адмянілі (ужо трэці раз запар) з-за пандэміі каранавіруса.

Лейпцыгскі кірмаш — найбуйнейшы пасля франкфурцкага кніжны форум у Нямеччыне. Ён праходзіць з пачатку XVII стагоддзя, прычым вядома, што ў 1632 годзе колькасць прадстаўленых на кірмашы кніг перавысіла колькасць выданняў, паказаных на кірмашы ў Франкфурце.

Лідзіруючыя пазіцыі Лейпцыг як цэнтр кнігагандлю захоўваў да 1945 года. Нават падчас Другой сусветнай вайны кірмаш не адмянялі, хаця колькасць краін-удзельніц, зразумела, рэзка скарацілася.

У пасляваенны перыяд, калі Нямеччына была падзелена на дзве дзяржавы — ГДР і ФРГ, Лейпцыгскі кірмаш апынуўся на тэрыторыі ўсходняй Нямеччыны. Але і тады гэта было важнейшае мерапрыемства, на якім выдаўцы з краін сацлагера маглі азнаёміцца з кніжнымі навінкамі Захаду.

Важнасць Лейпцыгскага кніжнага кірмаша не паменшылася і пасля аб'яднання Нямеччыны і яго «пераезду» са старога будынка ў цэнтры горада ў новы сучасны выставачны цэнтр у 1998 годзе.

Папулярнасць Лейпцыгскага кніжнага кірмаша расла штогод, пакуль у планы арганізатараў не ўмяшалася пандэмія каранавіруса. У 2020 годзе кірмаш адмянілі першы раз — з надзеяй, што ў наступным годзе ён адбудзецца. У 2021 годзе пандэмія зноў не дазволіла правесці мерапрыемства. І вось сёлета, нягледзячы на тое, што ўлады ФРГ далі зразумець, што да сакавіка, калі звычайна праходзіць кірмаш, будуць адменены некаторыя абмежаванні, выдаўцы вырашылі не рызыкаваць. «На жаль, з-за непрадказальнай сітуацыі з пандэміяй многія экспаненты не могуць упэўнена запланаваць удзел у такім буйным грамадскім мерапрыемстве. Гэта прывяло да шматлікіх адмоваў ад удзелу незадоўга да кірмаша. Таму з цяжкім сэрцам мы прынялі рашэнне не праводзіць яго сёлета», — адзначаецца ў паведамленні аргкамітэта Лейпцыгскага кніжнага кірмаша.

Наступны кірмаш адбудзецца, як запланавана, з 23 па 26 сакавіка 2023 года.

## Прэмія імя Пятра Магілы

Сёлета яе атрымала аўтарка кнігі пра суды над ведзьмамі...

Прэмію Вучоны савет Нацыянальнага ўніверсітэта «Кіева-Магілянская акадэмія» прысудзіў дацэнту кафедры гісторыі Кацярыне Дысе за кнігу «Украінскія вядзьмарскія выпрабаванні. Валынь, Падолле і Русь XVII— XVIII стст.» (Будапешт — Нью-Ёрк: CEU Press, 2020). Пра гэта паведаміла istpravda.com.ua.




У сваёй творчасці Кацярына Дыса ўпершыню апісвае ідэйную аснову трыбуналаў, заснаваных на працах святароў і тэолагаў, якія адлюстроўваюць стаўленне да д'ябла і ведзьмаў. Аднак асноўны кірунак працы вучонай — працэс, які прыводзіць да абвінавачванняў у вядзьмарстве. Расповеды ўдзельнікаў працэсаў паказалі, што падштурхнула людзей спачатку выказваць падазрэнні, а потым — абвінавачванні ў вядзьмарстве. Напрыканцы аўтарка апісвае гісторыю валынскай вёскі і параўноўвае стаўленне да двух «жаночых злачынстваў» ва ўкраінскіх судах.

Прэмія імя Пятра Магілы заснаваная ў 2005 годзе і штогод прысуджаецца за выдатныя навуковыя дасягненні, якія спрыяюць развіццю гуманітарных, сацыяльных і прыродазнаўчых навук, за кнігі, падручнікі, дапаможнікі, серыі навуковых прац.

## Вядомыя дзеячы культуры — у падтрымку Украіны

Сотні славутых дзеячаў культуры падпісалі заяву, у якой выказалі сваю падтрымку незалежнасці Украіны. «Мы не можам мірыцца з адкрытай пагрозай уварвання на чужую, суверэнную тэрыторыю», — заявілі лаўрэаты Нобелеўскай прэміі па літаратуры і іншыя дзеячы мастацтва аб дзеяннях Расіі вакол Украіны. Пра гэта паведаміла dw.com.

«Нельга мірыцца з тым, што праз больш чым 80 гадоў пасля падпісання пакта Гітлера-Сталіна ў Еўропе зноў узніклі адкрытыя пагрозы ўварвання на чужую суверэнную тэрыторыю», — гаворыцца ў заяве, апублікаванай 4 лютага.

350 падпісантаў заявы падкрэсліваюць, што жаданне прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна да гегемоніі з'яўляецца наступам на дэмакратычныя свабоды, атрыманыя ў многіх краінах Усходняй Еўропы з 1989 года. Пуцін быццам канструюе пагрозу Расіі з боку NATO, але наадварот: «акружэнне Украіны расійскімі войскамі з'яўляецца замахам на мір ва ўсёй Еўропе», — гаворыцца ў заяве.

Падпісанты звяртаюцца да палітыкаў з просьбай «рашуча супрацьстаяць пуцінскай агрэсіі». Дыялог з Расіяй захоўваецца, але трэба патрабаваць неадкладнага і безумоўнага адводу расійскіх войскаў ад межаў Украіны.

Сярод падпісантаў заявы — лаўрэаты Нобелеўскай прэміі па літаратуры Герта Мюлер і Воле Шоінка, кампазітар Вольф Бірман, мастак і актывіст Ай Вейвей, лірык і эсэіст Дурс Грюнбайн, былы кіраўнік Бундэстагу Вольфганг Шойбле і іншыя.

## Продаж правоў на экранізацыю Толкіна

Кампанія «Saul Zaentz» мае намер прадаць правы на камерцыйнае выкарыстанне твораў Джона Р. Р. Толкіна, у прыватнасці, экранізацыю кніг «Уладар пярсцёнкаў» і «Гоблін», распрацоўку гульняў на іх аснове, сувеніраў і іншае.




Чакаецца, што кампанія атрымае за тое не менш за 2 мільярды долараў. Працэсам продажу будуць кіраваць прадстаўнікі «ACF Investment Bank». У той жа час прадстаўнікі «Saul Zaentz» і «ACF» адмовіліся каментаваць продаж правоў. Аналітыкі мяркуюць, што галоўным прэтэндэнтам на набыццё правоў будзе «Amazon».

У студзені гэтага года стрымінгавы сэрвіс «Amazon Prime Video» апублікаваў першы тызер новай серыі фільма «Уладар пярсцёнкаў». У апісанні відэа сказана, што серыял выйдзе 2 верасня гэтага года. Эпізоды будуць з'яўляцца штотыдзень.

Першы сезон, які прайшоў у Новай Зеландыі, ужо каштаваў кампаніі каля 450 мільёнаў долараў (для параўнання: бюджэт усёй трылогіі Пітэра Джэксана склаў 281 мільён долараў).

Амерыканскі прадзюсар Сол Зенц, які памёр у 2017 годзе, набыў правы на экранізацыю розных твораў Толкіна ў 1976 годзе. Аднак гэтыя правы не ўключаюць стварэнне серыялаў, калі яны больш за восем серый. Менавіта дзякуючы гэтай умове «Amazon» змог абыйсці «Zaentz» у 2017 годзе і падпісаць правы на серыял непасрэдна з «Tolkien Estate». А кампанія «Saul Zaentz» мае ліцэнзію на адаптацыю твораў Толкіна.

## Біл Гейтс напісаў кнігу

Бізнэсмэн і заснавальнік «Microsoft» Біл Гейтс выдае кнігу пад назвай «Як прадухіліць наступную пандэмію»



Фота capital.ua

(«How to Prevent the Next Pandemic»). Пра гэта ён распавёў у асабістым блогу.

«Я думаю, што пандэмія COVID-19 можа быць апошняй», — так пачаў свой нарыс Гейтс. Прадпрымальнік перакананы, што пандэмію як з'яву трэба цалкам ліквідаваць, бо яна ўяўляе сур'ёзную пагрозу чалавецтву. Паводле Біла Гейтса, з першых дзён успышкі COVID-19 ён пачаў мець зносіны са спецыялістамі па барацьбе з інфекцыяй і зрабіў шэраг высноў, на падставе якіх можна пабудаваць алгарытм прадухілення пандэміі ў будучыні.

У кнізе, як абяцае Гейтс, апісаны канкрэтныя крокі па прадухіленні пандэміі. У ёй таксама абмяркоўваюцца ўрокі, якія чалавецтву трэба вынесці з каранавіруса, інавацыі, неабходныя для выратавання жыццяў, і інструменты для своечасовага спынення распаўсюджвання патагенных мікраарганізмаў.

У кнізе Біл Гейтс падзеліцца сваімі размовамі з дырэктарам Нацыянальнага інстытута алергіі і інфекцыйных хвароб Энтані Фаўчы і генеральным дырэктарам Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ) Тэдрасам Аданомам Гэбрэісусам.

Выхад кнігі «Як прадухіліць наступную пандэмію» запланаваны на 3 траўня. Кніга падрыхтавана ў амерыканскім выдавецтве «Knopf» і будзе даступная чытачам па ўсім свеце.

Нагадаем, што магчымае з'яўленне цяперашняга віруса COVID-19 Біл Гейтс спрагназаваў на канферэнцыі TED у 2015 годзе.

## На манетах ЗША — выява пісьменніцы

Манетны двор Злучаных Штатаў Амерыкі пачаў выпуск манеты наміналам 25 цэнтаў, упрыгожанай профілем вядомай амерыканскай пісьменніцы і паэткі Ма́йі Э́нджэлоу (англ. Maya Angelou). Яна стала першай чарнаскурай жанчынай, выява якой з'явілася на 25-цэнтавай манеце.

Пісьменніцу выбралі для першага выпуска «чацвертакоў», якія прысвечаны выбітным жанчынам Амерыкі. Праграма «Амерыканскія жанчыны на 25-цэнтавых манетах» была прынята ў 2020 годзе.

Памятныя манеты з профілямі іншых вядомых амерыканак будуць выпускацца з канца гэтага года да канца 2025-га. Штогод будзе адчаканена 5 новых відаў манет.

На адваротным баку манеты змешчаны профіль пісьменніцы, дзе яна — з паднятымі і выцягнутымі ўверх рукамі, а ззаду відаць птушку з распасцёртымі крыламі і прамяні ўзыходзячага сонца. Пад рукамі пісьменніцы напісана на англійскай мове: «Злучаныя Штаты Амерыкі», «Майя Энджэлоу», «Чвэрць долара» — і адзін на лацінскай мове — «E PLURIBUS UNUM» (дэвіз, размешчаны на гербе ЗША, у перакладзе азначае «З многіх — адзінае»).




Намеснік дырэктара манетнага двара Вентрыс С. Гібсан прызнаўся журналістам: «Для мяне вялікі гонар прадставіць першыя ў абарачэнні ў нашай краіне манеты, прысвечаныя амерыканскім жанчынам і іх укладу ў амерыканскую гісторыю. Кожны «чацвяртак» 2022 года заклікаяны адлюстраваць шырыню і глыбіню дасягненняў гэтай гістарычнай манетнай праграмы. Майя Энджэлоу, выява якой на адваротным баку першай манетнай серыі, выкарыстоўвала словы, каб натхніць і ўзняць настрой».

Пісьменніца, паэтэса, выканаўца, грамадская дзячка і педагог Майя Энджэлоу атрымала сусветную вядомасць пасля выхаду ў свет яе наватарскай аўтабіяграфіі «Я ведаю, чаму птушка ў клетцы співае». Сярод апублікаваных твораў пісьменніцы (вершы, навуковая і мастацкая літаратура) — больш за 30 бэстсэлераў. Яе выдатны дыяпазон кар'еры ўключае танцы, тэатр, журналістыку, літаратурную і грамадскую дзейнасць. Уладальнік 30 ганаровых ступеняў, Майя Энджэлоу прачытала свой верш «На пульсе раніцы» на інаўгурацыі прэзідэнта Біла Клінтана ў 1992 годзе. У 2010 годзе прэзідэнт Барак Абама ўзнагародзіў яе Прэзідэнцкім медалём свабоды, а ў 2013 годзе яна атрымала Ганаровую нацыянальную кніжную прэмію за ўклад у літаратурную супольнасць.